СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.59, 21.13, 16.14;
Віцебск — 4.43, 21.09, 16.26;
Магілёў — 4.49, 21.02, 16.13;
Гомель — 4.52, 20.53, 16.01;
Гродна — 5.15, 21.28, 16.13;
Брэст — 5.24, 21.20, 15.56.

МЕСЯЦ:
Поўня 16 мая.

ІМЯНІНЫ:
Ніла, Івана, Давыда, Зянона, Язэпа, Міхала, Сцяпана; Базыля, Бернадзіна.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

20 МАЯ 1992 г.
серада, № 98—99
(21876—21877)

● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## У КІРАЎНІКА ПАРЛАМЕНТА НОВЫ САВЕТНІК

Ім стаў 36-гадовы кандыдат філасофскіх навук, спецыяліст у галіне гісторыі заходнееўрапейскай філасофіі Сяргей Панькоўскі. Ён валодае французскай і польскай мовамі, са Станіславам Шушкевічам пазнаёміўся некалькі гадоў таму назад, калі той яшчэ працаваў ва універсітэце. У апараце Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Панькоўскі будзе кіраваць пытаннямі знешняй палітыкі. У бліжэйшых планах новага саветніка — стварэнне аналітычнага даследчага цэнтра па распрацоўцы розных дзяржаўных дактрын і праграм пры кіраўніку беларускага парламента.

Адну з першачарговых задач цэнтра С. Панькоўскі бачыць у «выпрацоўцы стратэгічных напрамкаў рэалізацыі знешнепалітычнай дактрыны Беларусі». У ёй, па словах саветніка, «будуць вызначаны знешнеэканамічныя прыярытэты, агавораны пытанні няўхільнага захавання заключаных рэспублікай дагавораў і пагадненняў, максімальны ўдзел у акцыях міжнародных арганізацый, членам якіх з'яўляецца Беларусь».

Як паведаміў карэспандэнту «Інтэрфакса» С. Панькоўскі, мяркуецца, што ў бліжэйшы час для абмеркавання гэтых пытанняў адбудзецца спецыяльнае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі.

**«Інтэрфакс».**

## АБ КАРЫСЦІ ПЕРАМЯШЧЭННЯ ПЕШШУ...

Такім чынам, тое, аб чым мы папярэджвалі ў аўторак, здарылася: вадзіцелі аўтобусаў мінскіх гарадскіх маршрутаў правялі папераджальную забастоўку. Яна працягвалася з 9 да 12 гадзін. Патрабаванні, якія прад'яўляліся вытворчаму аб'яднанню «Мінскпасажыраўтатранс» і Мінгарвыканкому, насілі эканамічны характар: павышэнне заработнай платы ў 2,5—3 разы, павелічэнне аб'ёму прэміравання.

У гэты дзень многія мінчане зведалі сапраўдныя мукі: ля прыпынкаў вялікія людскія натоўпы, перагружаныя тралейбусы ледзьве кранаюцца з месца, аб «эпітэтах», якія чуліся з усіх бакоў, і гаварыць не прыходзіцца.

Але гэта толькі пачатак. Калі не будуць выкананы патрабаванні вадзіцеляў аўтобусаў, то існуе рэальная пагроза спынення работы ўсяго гарадскога пасажырскага транспарту ў комплексе.

## ЕЎРАПАРЛАМЕНТ—СНД: КРОКІ НАСУСТРАЧ

У сталіцу Беларусі 18 мая для ўдзелу ў сумеснай нарадзе прыбылі дэлегацыя Камітэта Савета Еўропы па сувязях з еўрапейскімі краінамі — не членамі Савета Еўропы і прадстаўнікі дзяржаў, якія ўваходзяць у СНД. Галоўная мэта візіту — умацаванне сувязей Еўрапарламента з заканадаўчымі асамблеямі краін Усходняй Еўропы. Мінскай сустрэчы папярэднічаў візіт гасцей з Еўропы ў Балтыю, рэспублікі якой, відаць, ужо ў бліжэйшы час стануць членамі СЕ.

Акрамя гутаркі ў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, прадстаўнікі Савета Еўропы маюць намер сустрэцца з дэлегацыямі парламентаў краін СНД, кіраўнікамі і каардынатарамі дэпутацкіх фракцый беларускага парламента, прадстаўнікамі нацыянальных камітэтаў і рэлігійных арганізацый рэспублікі.

Акрамя сумеснай нарады, асобна запланаваны сустрэчы з прадстаўнікамі Арменіі, Азербайджана, Грузіі, Малдовы, Украіны.

## ТАЛАЧЫН. ТУТ БУДЗЕ... КОМПЛЕКС-МАГІЛЬНІК

**З горыччу і болем талачынцы нядаўна даведаліся аб тым, што над вёскай Стуканы навісла страшэнная небяспека. Тут плануецца пабудаваць комплекс-магільнік па ўтылізацыі і захаванню таксічных прамысловых адходаў і пестыцыдаў, у якіх скончыўся тэрмін годнасці.**

**Такое рашэнне прыняў аблвыканком. А, каб яно было больш пераканаўчым і пачало неадкладна выконвацца, заручыўся «рэкамендацыямі» камісіі Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Але няўжо нельга размясціць магільнікі ў месцах, дзе стала немагчымым пражыванне людзей у выніку радыеактыўнага забруджвання? Гэта пытанне задаюць сабе жыхары раёна, якія сказалі рашучае «не» рашэнню аблвыканкома.**

**Аляксандр Паўлавіч Рудасаў да кастрычніка мінулага года жыў на Гомельшчыне. Там у яго былі добрая работа, пабудаваны ўласнымі рукамі дом, шмат сяброў і цудоўная палеская прырода. Але не было душэўнага спакою, бо радыяцыя і дзеці не павінны быць па суседству. Тым больш сынок Жэнька стаў адчуваць сябе не лепшым чынам. І вось Аляксандр Паўлавіч з сям'ёй ва Ушачах. Тут трэба аддаць належнае дырэктару лясгаса, заслужанаму лесаводу рэспублікі Мікалаю Дарафеевічу Бабаедаву. Ён сказаў: «Новы год будзеш сустракаць у сваім доме». Аляксандр Паўлавіч не паверыў сваім вушам: да Новага года заставалася ўсяго тры месяцы. Дырэктар стрымаў слова. Каб так усюды сустракалі людзей з чарнобыльскай зоны! Але аб гэтым можна толькі марыць. Аляксандра Паўлавіча ўзялі на пасаду галоўнага ляснічага за яго прафесіянальныя якасці, за добрае веданне сваёй справы. У свой час ён скончыў Полацкі лясны тэхнікум, потым Беларускі тэхналагічны інстытут імя Кірава, дзе, дарэчы, і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Святланай.**

**Калектыў лясгаса працуе стабільна. Па выніках мінулага года ён заняў першае месца ў рэспубліцы. Добра ідуць справы і сёлета. Толькі на працягу першага квартала ўжо выпушчана таварнай прадукцыі амаль на 6 мільёнаў рублёў. Але галоўнай сваёй задачай і першым клопатам тут лічаць вырошчванне лесу—на радасць сабе і нашчадкам.**

**НА ЗДЫМКУ: А. РУДАСАЎ, яго жонка СВЯТЛАНА, дзеці МАША і ЖЭНЯ.**

Фота **Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# РАДЫЁФАКТ

У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь наваселле: усе яго службы перасяліліся з Дома ўрада ў будынак былога ЦК КПБ. Хацелася б спадзявацца, што вышэйшы заканадаўчы орган рэспублікі адкажа больш эфектыўнай работай на значнае паляпшэнне ўмоў сваёй працоўнай дзейнасці. І, канешне ж, ён не будзе капіраваць метады работы і нормы службовых адносін былых гаспадароў гэтага будынка. Аднак, відаць па ўсім, у прасторных калідорах пышнага палаца насупраць сціплага купалаўскага тэатра трывала асеў камуністычны наменклатурны дух. Як стала вядома «Радыёфакту» з неафіцыйных крыніц, члены Прэзідыума цяпер абедаюць у паўзасакрэчаным кабінеце па папярэдніх заказах, як у санаторыі, ды яшчэ і авансам. І сярод саміх членаў Прэзідыума няма, як у старым памяшканні, дэпутацкай роўнасці. Адны з іх размясціліся ў самых прасторных кабінетах былых сакратароў ЦК, іншым дасталіся больш сціплыя апартаменты. Усё вырашала папярэдняе месца работы: калі да атрымання дэпутацкага мандата ты быў буйной наменклатурнай фігурай — то і кабінет атрымлівай адпаведны. Няўжо ўсё вяртаецца на кругі свае? Можа, не варта было і коп'і ламаць?

***

**У вымушаны адпачынак павінны пайсці многія работнікі Наваполацкага завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў. Некалі вельмі стабільнае прадпрыемства сёння трасе. І вось чаму. Цэны на бялок сталі непамерна высокімі, да таго ж няма зерня для яго вытворчасці. Як сцвярджае дырэктар прадпрыемства, хутка тона бялку будзе каштаваць 55—56 тысяч рублёў. На яго думку, прасцей выразаць скаціну, чым карміць яе па такой цане. Выхад са складанага становішча, лічыць дырэктар, ёсць: павінна быць новая падатковая палітыка.**

***

У Маскве пачала работу міжнародная канферэнцыя «Супраціўленне ў ГУЛАГу». На канферэнцыю прыбылі прадстаўнікі дзесяці краін свету. Удзельнічае ў ёй і гамяльчанін, былы палітзняволены нарыльскага лагера, адзін з кіраўнікоў паўстання летам 1953 года Рыгор Сяргеевіч Клімовіч.

***

**«95—97 працэнтаў злачынстваў у галіне эканомікі ўтоена ад вачэй праваахоўных органаў», — лічыць пракурор Масквы Генадзь Панамароў. Ён мяркуе, што для таго, каб атрымаць блізкую да ісціны лічбу, даныя статыстыкі, якія датычаць хабару, раскраданняў, растрат, трэба смела павялічваць у 20—30 разоў. Пракурор сцвярджае, што ў Расіі пачалося самае важнае і сур'ёзнае—перадзел уласнасці. Панамароў лічыць, што калі гэты працэс не праводзіць у найстражэйшых рамках закона і не спяшаючыся, за 5—10 гадоў, то вельмі хутка наша грамадства стане, з аднаго боку — групай рабаўнікоў, з другога — групай абрабаваных.**

***

Суддзі Канстытуцыйнага суда Расіі ў час пасяджэнняў будуць апрануты ў мантыі. Апісанне гэтага традыцыйнага адзення служыцеляў Феміды зацвердзіў старшыня Вярхоўнага суда Расійскай Федэрацыі. Мантыя будзе выраблена з тканіны чорнага колеру, упрыгожана гербам Расіі, які вышыты срэбрам. У старшыні Канстытуцыйнага суда адзенне дапоўнена сярэбраным медальёнам з вобразатворам Феміды і пасярэбраным ланцугом. Прадугледжваецца і традыцыйны галаўны ўбор — «чатырохвуголка».

***

**Лівійскі лідэр Муамар Кадафі заклікаў лівійцаў выпрацаваць сумесную мадэль рыначнай эканомікі. Як паведаміла агенцтва Асашыэйтэд Прэс, ён прапанаваў абмеркаваць пытанне аб мэтазгоднасці адкрыцця прыватных магазінаў, невялікіх фабрык і пасрэдніцкіх кантор. Раней Кадафі катэгарычна адхіляў самую ідэю прыватнай уласнасці і ў пачатку васьмідзесятых гадоў асабіста сядзеў за рычагамі бульдозера, які зносіў прыватныя гандлёвыя рады ў Трыпалі і Бенгазі.**

***

Паводле ацэнак Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, насельніцтва Афрыкі больш чым патроіцца да сярэдзіны XXI стагоддзя. У 2050 годзе афрыканцы складуць 34 працэнты ўсяго насельніцтва планеты.

# ПАГАДНЕННЕ аб мерах па забеспячэнню паляпшэння разлікаў паміж гаспадарчымі арганізацыямі краін—удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў

Кіраўнікі дзяржаў краін — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў у мэтах паляпшэння разлікаў паміж гаспадарчымі арганізацыямі і скарачэння ўзаемнай запазычанасці за тавары і паслугі дагаварыліся аб наступным:

**Артыкул 1**

Прызнаць нецярпімым існуючае становішча з разлікамі за тавары і паслугі, з бюджэтам і па іншых абавязацельствах. Абавязаць урады прыняць неадкладныя меры да нармалізацыі фінансавага стану і ўвесці ў дзеянне механізм санацыі і банкруцтва неплацежаздольных прадпрыемстваў і арганізацый.

**Артыкул 2**

Даручыць кіраўнікам урадаў і Нацыянальным (цэнтральным) банкам:

урэгуляваць патрабаванні гаспадарчых суб'ектаў дзяржаў — удзельніц СНД, уключаючы ўзаемны залік міждзяржаўных абавязацельстваў, увязаўшы гэта з упарадкаваннем плацежна-разліковых адносін, распрацоўкай плацежных балансаў, перспектывай увядзення нацыянальных валют;

вызначыць парадак разлікаў праз прадпрыемствы сувязі краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў, які забяспечваў бы атрыманне грашовых сродкаў для своечасовых разлікаў з пераводаатрымальнікамі;

забяспечыць укараненне механізма разлікаў паміж прадпрыемствамі з прымяненнем вэксаляў, а таксама выкарыстанне тэлеграфнай і іншых форм паскарэння аплаты рахункаў;

заключыць пагадненне аб механізме далейшага функцыяніравання грашовай сістэмы, заснаваным на адзіным законным плацежным сродку — рублі, і аб адпаведных метадах правядзення ўзгодненай грашова-крэдытнай палітыкі ў рублёвай зоне з улікам перспектывы ўвядзення нацыянальных грашовых адзінак асобнымі дзяржавамі — былымі рэспублікамі Саюза ССР.

Даручыць Нацыянальным (цэнтральным) банкам не пазней 20 мая г. г. вызначыць тэрміны ўрэгулявання ўзаемных плацежна-разліковых адносін, але не пазней першай палавіны чэрвеня месяца бягучага года.

**Артыкул 3**

У мэтах павышэння адказнасці гаспадарчых суб'ектаў за своечасовае правядзенне разлікаў устанавіць пеню за нясвоечасовую аплату пастаўленых тавараў і аказаных паслуг у размеры не менш 0,2 працэнта за кожны дзень пратэрміноўкі плацяжу.

**Артыкул 4**

У мэтах спынення правядзення аперацый па фіктыўных (несапраўдных) дакументах (авізо) цэнтральным (нацыянальным) банкам дзяржаў, якія ўваходзяць у рублёвую зону, залічэнне сродкаў на карэспандэнцкія рахункі камерцыйных банкаў рабіць толькі па авізо, засведчаным гербавай пячаткай установы Цэнтральнага (нацыянальнага) банка.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАНСІЯНАТ «АТОЛІНА»— СПРАВЯДЛІВАЕ РАШЭННЕ

Вось ужо не першы дзень кіпяць страсці вакол стаўшага славутым пансіяната «Атоліна», які раней належаў ЦК КПБ.

У сувязі з тым, што сітуацыя, якая склалася вакол пансіяната, хвалюе грамадскасць, гэта пытанне нядаўна разгледзелі Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі С. С. Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Ф. Кебіч. Адназначна выказана думка аб тым, што былая партыйная ўласнасць павінна служыць народу і выкарыстоўвацца перш за ўсё ў інтарэсах тых, хто больш за ўсё мае ў ёй патрэбу.

Улічваючы прапановы Міністэрства сацыяльнага забеспячэння рэспублікі аб узмацненні ўвагі да патрэб інвалідаў, адзінокіх пенсіянераў, людзей, якія пацярпелі ад Чарнобыля, ветэранаў вайны і працы, кіраўнік урада падпісаў распараджэнне аб перадачы пансіяната «Атоліна» Мінсабесу і стварэнні на яго базе Рэспубліканскага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў. Зроблена таксама даручэнне аб адводзе ўчастка плошчай да 8 гектараў з зямель размешчанай побач гаспадаркі «Атоліна», а таксама аб выдзяленні сродкаў і матэрыяльных рэсурсаў, неабходных для падрыхтоўкі дома-інтэрната да пастаяннай эксплуатацыі.

Такім чынам, зацяжной гісторыі, здаецца, пакладзены канец.

**(БЕЛТА).**

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» з 1 студзеня 1993 года.

Грамадзянам, якім пенсія назначана да ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона, што не маюць па ўмовах і нормах дадзенага Закона права на больш высокую пенсію, яна выплачваецца ў размерах не ніжэй прадугледжаных заканадаўствам да ўвядзення ў дзеянне ўказанага Закона.

2. Устанавіць, што пры назначэнні пенсій па жаданню пенсіянераў у 1993 годзе пенсіі могуць вылічацца з сярэднямесячнага заработку за два апошнія гады работы, у 1994 годзе — за тры, у 1995 годзе — за чатыры апошнія гады работы.

3. Устанавіць, што:

работа ў СССР залічваецца ў стаж работы для назначэння пенсіі па правілах артыкулаў 51—54 гэтага Закона;

незалежна ад палажэнняў артыкула 51 гэтага Закона час работы пасля назначэння пенсіі ў перыяд да 1 студзеня 1991 года ўлічваецца пры павелічэнні размеру пенсіі (артыкул 23 гэтага Закона);

творчая дзейнасць членаў творчых саюзаў і іншых творчых работнікаў, якія не з'яўляюцца членамі творчых саюзаў, але аб'ядноўваюцца адпаведнымі прафесіянальнымі камітэтамі, а таксама работа ў асобных грамадзян да 1 студзеня 1991 года залічваецца ў працоўны стаж незалежна ад выплаты страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь;

час службы ў якасці свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў да 1 красавіка 1992 года залічваецца ў працоўны стаж незалежна ад выплаты страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

4. Устанавіць, што асобам, якія прапрацавалі да дня ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона не менш 15 каляндарных гадоў у раёнах Крайняй Поўначы або не менш 20 каляндарных гадоў у мясцовасцях, прыраўнаваных да раёнаў Крайняй Поўначы, пенсіі па ўзросту ў размерах, прадугледжаных гэтым Законам, назначаюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі па ўзросту і стажу, устаноўленымі раней дзеючым заканадаўствам. Пры вызначэнні права на пенсію прымяняецца дзеючы да дня звароту за назначэннем пенсіі пералік раёнаў Крайняй Поўначы і мясцовасцей, прыраўнаваных да раёнаў Крайняй Поўначы, зацверджаны Урадам Расійскай Федэрацыі.

5. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у тэрмін да 1 снежня 1992 года:

распрацаваць і зацвердзіць спісы і пералікі вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў, якія даюць права на атрыманне пенсій за работу з асаблівымі ўмовамі працы і пенсій за выслугу гадоў, а таксама парадак і ўмовы назначэння пенсій за выслугу гадоў у адпаведнасці з артыкуламі 47 і 49 гэтага Закона;

прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь для зацвярджэння праект Палажэння аб Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь;

на працягу 1992 года:

зацвердзіць парадак карэкціроўкі сярэднямесячнага заработку, які вызначаецца пры назначэнні пенсіі (артыкул 57 гэтага Закона і пункт 2 гэтай Пастановы), у сувязі з павелічэннем тарыфных ставак і акладаў;

прыняць неабходныя нарматыўныя акты па пытаннях, аднесеных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» да кампетэнцыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні ў дзеючае заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, якія вынікаюць з Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні»;

прывесці акты Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» і забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, у тым ліку інструкцый, якія супярэчаць гэтаму Закону;

ажыццявіць неадкладныя мерапрыемствы па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы сістэмы органаў сацыяльнага забеспячэння, найбольш поўнаму аснашчэнню іх сучаснымі сродкамі вылічальнай і размнажальнай тэхнікі, сувязі і транспарту, укамплектаванню кваліфікаванымі кадрамі;

вырашыць пытанне аб устанаўленні на перыяд падрыхтоўкі і правядзення пераразлікаў пенсій даплат да заработнай платы работнікам органаў сацыяльнага забеспячэння і матэрыяльным стымуляванні работнікаў, якія прыцягваюцца да гэтай работы.

6. Камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва ўнесці прапанову аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі», якія вынікаюць з артыкула 70 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні».

7. Устанавіць, што тарыфы страхавых узносаў на пенсіённае забеспячэнне, якія выплачваюцца прадпрыемствамі, арганізацыямі, калгасамі і іншымі кааператывамі, грамадзянамі, што займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, штогод зацвярджаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

8. Рэкамендаваць мясцовым Саветам народных дэпутатаў ажыццяўляць меры па забеспячэнню дадатковых гарантый сацыяльнай абароненасці і паляпшэнню ўмоў жыцця ветэранаў вайны і працы, інвалідаў і сем'яў, якія страцілі карміцеля, і асабліва па ўзмацненню клопату аб менш забяспечаных катэгорыях пенсіянераў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

17. красавіка 1992 г.
г. Мінск

## «МІНА» ЗАПАВОЛЕНАГА ДЗЕЯННЯ

**КОБРЫН (Ю. Фёдарава). «Да воінскай службы непрыгодны» — такое заключэнне вынеслі медыкі шэрагу юнакоў-прызыўнікоў з Кобрынскага раёна. Чаму не ўсё ў парадку са здароўем у маладых хлопцаў?**

**Аказваецца, яшчэ дзесяць гадоў назад у перыяд практычна бескантрольнага выкарыстання мінеральных угнаенняў здароўе дзяцей было парушана нітратамі і нітрытамі.**

**Вось з якімі «далёкімі» праблемамі прыходзіцца сустракацца ў ваенкамаце.**

# Маўна Хенрык Койвіста

Сёння ў Мінск па запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча з аднадзённым рабочым візітам прыбывае Прэзідэнт Фінляндскай Рэспублікі Маўна Хенрык Койвіста.

Маўна Койвіста быў выбраны Прэзідэнтам Фінляндскай Рэспублікі ўпершыню ў 1982 і другі раз — у 1988 годзе.

Маўна Койвіста нарадзіўся 25 лістапада 1923 года ў сям'і сталяра Юха Койвіста. У 1952 годзе ён ажаніўся на Тэлерва Канкаанранта. Дачка Асі нарадзілася ў 1957 годзе.

Маўна Койвіста вучыўся і працаваў адначасова. У 1949 годзе ён здаў экзамен на атэстат сталасці, у 1953 годзе яму былі прысвоены ступені кандыдата філасофіі і ліцэнцыята філасофіі. У 1956 годзе ён абараніў доктарскую дысертацыю.

Маўна Койвіста працаваў у Турку цесляром, грузчыкам і начальнікам канторы па партовых работах у 1948—1951 гадах. У 1951—1953 гадах ён быў выкладчыкам народнай школы і ў 1954—1957 гадах — кансультантам па пытаннях выбару прафесіі. У 1958 годзе яго запрасілі на пасаду аднаго з дырэктараў Хельсінкскага рабочага ашчаднага банка, у 1959—1967 гадах ён быў дырэктарам - распарадчыкам гэтага банка, у 1968—1982 гадах — старшынёй праўлення Фінляндскага банка.

Членам Дзяржаўнага савета (урада) Маўна Койвіста быў у 1966—1967 і 1972 гадах у якасці міністра фінансаў. Ён быў прэм'ер-міністрам у 1968—1970 і 1979—1982 гадах.

Маўна Койвіста быў членам Сацыял - дэмакратычнай партыі Фінляндыі ў 1947—1982 гадах. У 1957 годзе ён быў гарадскім упаўнаважаным горада Турку.

Маўна Койвіста займаў многія выбарныя пасады, у прыватнасці такія, як

— старшыня праўлення банка «Постыпанкі» ў 1970—1982 гадах,
— старшыня праўлення банка «Мортгейдж бэнк оф Фінлэнд ЛТД» у 1971—1982 гадах,
— старшыня праўлення а/т «Тэрвакоскі» ў 1970—1982 гадах,
— старшыня Савета кіраўнікоў а/т «Спонсар» у 1970—1982 гадах,
— старшыня Савета кіраўнікоў а/т «Тэалістамісрахаста» ў 1969—1982 гадах, а таксама — як
— прадстаўнік дзяржавы Фінляндыі ў Савеце кіраўнікоў Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця ў 1966—1969 гадах,
— прадстаўнік Фінляндыі ў Савеце кіраўнікоў Міжнароднага валютнага фонду ў 1970—1979 гадах.

Наступныя вышэйшыя навучальныя ўстановы прысвоілі Маўна Койвіста званне ганаровага доктара:

— доктар грамадска - палітычных навук Гонарыс Каўза — універсітэт Турку (1977 г), Тулузскі універсітэт (1983 г), універсітэт Хельсінкі (1986 г),
— доктар камерцыйных навук Гонарыс Каўза — шведскі універсітэт «Аба акадэмі», Турку (1978 г),
— доктар грамадскіх навук Гонарыс Каўза — палітэхнікум, Тамперэ (1985 г),
— доктар юрыдычных навук Гонарыс Каўза — Карлаў універсітэт, Прага (1987 г.),
— доктар тэхнічных навук Гонарыс Каўза — палітэхнікум, Эспоа (1988 г.),
— доктар філасофіі Гонарыс Каўза — універсітэт Хельсінкі (1990 г.).

Ён узнагароджаны найвышэйшымі айчыннымі і мноствам зарубежных ордэнаў.

Маўна Койвіста напісаў пяць кніг (1968—1988 гг.). Некаторыя з іх перакладзены на шведскую мову. На рускай мове выйшла яго кніга «Вехі шляху» (1987 г.), якая перакладзена на англійскую і нямецкую мовы.

Акрамя фінскай і шведскай, Маўна Койвіста свабодна размаўляе таксама на англійскай, нямецкай і рускай мовах.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

НАТАТКІ ПАЛІТОЛАГА

# БЕЛАРУСЬ У ГЕАПАЛІТЫЦЫ

## II. Не ў разбраенні збавенне

Заява аб прыхільнасці Рэспублікі Беларусь да палітыкі нейтралітэту і ядзернага разбраення прыйшлася даспадобы бадай што большасці нашага насельніцтва. Іначай і не мог зрэагаваць народ, збяднелы пад цяжарам мілітарысцкіх амбіцый мінулых рэжымаў і збалелы пад уплывам вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Гэту палітыку адзначылі на Захадзе. Па зразумелых прычынах там уважліва сочаць за лёсам ракет і ядзерных боегаловак, размешчаных на тэрыторыі Беларусі. Што да беларускага нейтралітэту, дык ён, як кажуць, быў прыняты да ведама, але вялікага энтузіязму за мяжой не выклікаў. У Еўропе разумеюць, што беларускія палітыкі манатонна паўтараюць аб сваім імкненні да нейтралітэту таму, што пакуль не маюць чаго сказаць больш канструктыўнага ў міжнародных справах, хаваюць такім чынам сваю няўпэўненасць, перасцерагаюцца.

**Зразумела, што прыхільнікі нейтралітэту, заклапочаныя лёсам нацыянальнай дзяржаўнасці, шукаюць менавіта ў нейтралітэце перспектыў і гарантый для яе. Гісторыя, аднак, сведчыць, што ніякія заявы і дэкларацыі не маюць сур'ёзнага значэння, калі разгараюцца вогнішчы міжнародных канфліктаў і войнаў. Прыклад Швейцарыі шмат каго вабіць, але варта памятаць, што на працягу стагоддзяў гэту краіну абміналі войны не таму, што на пагранічных слупах былі расклееныя заявы аб яе нейтралітэце, а таму, што Альпы і ў мірны час нялёгка пакарыць, і таму, што суседзі добра ведалі ваяўнічы дух жыхароў горнай краіны, памяталі аб пільным воку альпійскіх стралкоў.**

Дарэчы было б паставіць пытанне: як разумець нейтралітэт Беларусі? Дакладна адказаць на яго змогуць хутчэй за ўсё толькі аўтары самой ідэі, бо тут могуць быць розныя інтэрпрэтацыі. Але за кожным разам урадавая канцэпцыя пераўтварэння Беларусі ў нейтральную дзяржаву адразу ж уступае ў супярэчнасць з урадавай прыхільнасцю да ўдзелу ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Сёння СНД выконвае, як вядома, функцыі важнага блока (агульнае камандаванне Узброенымі Сіламі, сумесны кантроль над стратэгічнымі злучэннямі і г. д.), гаспадарчай супольнасці (агульныя грошы, транспартная сетка і інш.), а таксама палітычнага саюза («празрыстыя» граніцы, сталыя органы каардынацыі палітыкі і г. д.). Нават калі дзве трэці з гэтых сувязей абарвуцца, дык астатніх будзе дастаткова, каб лічыць спадчыннікаў па СССР адзіным геапалітычным абшарам, а частка з іх будзе працягваць пачатыя яшчэ ў часы СССР і нават Расійскай імперыі ўзаемныя кантакты. І таму палітыкам з іншых краін, мусіць, нялёгка паверыць у шчырасць нашых заяў аб нейтралітэце.

Нейтралітэт, калі яго і сапраўды паслядоўна прытрымлівацца, у нейкім сэнсе азначаў бы спробу самаізалявацца, унікнуць ад удзелу ў вырашэнні найбольш складаных праблем свайго геапалітычнага акружэння. Блізкія суседзі такую палітыку ўспрымуць не іначай як абыякавасць да іх спраў і нават лёсу. Ці на карысць Беларусі была б такая абыякавасць да яе праблем з боку сумежных краін? Напэўна, не, бо абвяшчэнне нейтралітэту, скажам, да Расіі мела б сваім вынікам не толькі адмаўленне ад супрацоўніцтва і дапамогі ў часы якіх-небудзь выпрабаванняў, але не застрахавала б Беларусь ад непрыязных крокаў расійскага кіраўніцтва тады, калі б гэта раптам здалося яму неабходным.

Немэтазгодным бачыцца нейтралітэт і ў дачыненні да іншых краін — сваякоў па былым СССР, а таксама да адносін паміж імі.

Наша папярэдняе сцвярджэнне аб ролі расійскай дэмакратыі ў з'яўленні незалежнай Беларусі было б толькі паўпраўдай, калі не ўспомніць пра Украіну. Геапалітычная прастора новапаўсталай Вялікай Расіі на другі ж дзень была сплюшчана з боку яе паўднёва-заходняга суседа. Узаемадзеянне інтарэсаў, гаспадарчага, стратэгічнага і маральнага патэнцыялаў Расіі і Украіны бадай што падштурхнула палітычныя працэсы ва Усходняй Еўропе. За кожным разам голас апанента з Кіева, з якім нельга не лічыцца, перапыняў манатлог Масквы ў дачыненні да спраў рэгіёна. Ва ўзнікшай гутарцы да месца прыйшоўся і голас з Мінска.

Вядома, што паміж Расіяй і Украінай застаецца нямала супярэчнасцей з мінулага, праблем сённяшняга дня і тых, якія могуць паўстаць альбо абвастрыцца ў бліжэйшыя гады. Не варта іх нават пералічваць, каб, як кажуць, «не накаркаць». У жыццёвым інтарэсе Беларусі ляжыць фарміраванне лаяльных, прыязных узаемаадносін гэтых краін, і ні ў якім выпадку не была б нам на карысць канфрантацыя паміж імі. І таму заканамерна спадзявацца, што палітыкі Беларусі не пашкадуюць высілкаў, каб паспрыяць настроям добрасуседства на поўдні ад нашых межаў.

Цяжка было б пераацаніць ролю Украіны як партнёра для РБ. Бясспрэчнымі тут будуць аргументы эканамічнага, эмацыянальна-людскога, гістарычнага фактараў. Дарэчы, можна прыгадаць, што паўднёвыя граніцы Беларусі акрэсліліся яшчэ пры ўтварэнні Рэчы Паспалітай і з той жа пары заставаліся, у адрозненне ад усходніх, паўночных і заходніх, амаль нязменнымі. Мацней за ўсё на карысць беларуска-украінскага збліжэння гавораць аргументы геапалітычнага характару. Незалежная і, канешне, разважлівая знешняя палітыка Украіны, канструктыўныя ўкраінска-расійскія, а таксама ўкраінска-польскія адносіны павінны стаць моцным стабілізуючым фактарам у нашым рэгіёне Еўропы. А гэта менавіта тое, што павінна быць у цэнтры ўвагі ўрада і грамадскасці Беларусі.

Тое самае тычыцца і нашых паўночна-заходніх суседзяў. Кожнае абвастрэнне адносін, скажам, паміж Латвіяй і Расіяй ці Літвой і Польшчай, альбо ўмяшанне іншай дзяржавы ў справы балтыйскіх краін адмоўна адбілася б на міжнародным становішчы Беларусі. А выкарыстанне яе тэрыторыі ў якім-небудзь лакальным канфлікце з удзелам узброеных сіл нанесла б непапраўную шкоду аўтарытэту рэспублікі і стварыла б рэальную пагрозу для яе незалежнасці.

Немагчыма ўявіць, што на руінах СССР адразу маглі б усталявацца стабільнасць, спакой і парадак. На Поўдні даходзіць нават да сапраўдных войнаў. Пакуль сфарміруюцца баланс інтарэсаў незалежных дзяржаў і народаў, сістэма ўзаемаадносін — пройдзе час. Час нестабільнасці, неспакою, рызыкі міжнародных канфліктаў. Усведамленне гэтага патрабуе адэкватных дзеянняў. Лёс падарыў Беларусі незалежнасць, але нельга спадзявацца, што ён гарантуе і надалей спрыяльныя знешнія ўмовы.

Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі Беларусі, калі б яна існавала, напэўна, прадугледзела б палітычную і дыпламатычную актыўнасць беларускага ўрада перш за ўсё ў адносінах з сумежнымі краінамі, намаганні ў падтрымку тут стабільнасці, развіцця ўсебаковага супрацоўніцтва. Нейтралітэт жа Беларусі ў выпадку парушэння стабільнасці, абвастрэння сітуацыі ў блізкім акружэнні азначаў бы адсутнасць усякай знешняй палітыкі, перадачу сваіх інтарэсаў і, што нельга выключаць, сваёй тэрыторыі для ажыццяўлення палітыкі іншых дзяржаў, «не нейтральных».

Было б памылкай лічыць, што ўся гэта аргументацыя мае на мэце зацвердзіць прыярытэт усходняй знешняй палітыкі Беларусі за кошт занядбання кантактаў і актыўнасці на Захадзе. Бясспрэчна, што ўзняцца на сучасны ўзровень вытворчых тэхналогій, бытавой культуры, сацыяльна-палітычнай арганізацыі грамадства Беларусь здолее толькі праз супрацоўніцтва з самымі развітымі краінамі, праз выкарыстанне дасягненняў іншых народаў. Але актыўнасць нашай дыпламатыі ў Заходняй Еўропе і Амерыцы ўжо стала фактам, і застаецца пажадаць ёй надалей выніковасці. А надзейнае становішча Беларусі ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне заўжды будзе лічыцца важкім аргументам на перамовах у заходніх сталіцах.

Хтосьці можа запярэчыць: шматкірункавая дыпламатычная інвазія будзе непасільнай для невялікай і небагатай краіны. У адказ можна было б прааналізаваць суадносіны знешняй і ўнутранай палітыкі ў вялікіх і невялікіх дзяржавах. Даволі лёгка можна прыйсці да высновы, што ўдзельная вага знешняй палітыкі ў выдатках бюджэту, размеркаванні працоўнага часу дзяржаўнага кіраўніцтва і ўвагі грамадскасці павялічваецца ў меншых дзяржавах і змяншаецца ў вялікіх. Тыя ж прапорцыі адлюстроўваюцца ў выдатках на абарону (з некаторымі адступленнямі) і асабліва ў знешнім гандлі. Беларусі на гэтым фоне яшчэ далёка да празмерных намаганняў. Да таго ж вядома, што энергічная і ўмелая дыпламатыя дапамагае свайму народу ўнікнуць незлічоных страт.

Праблемай выдаткаў абгрунтоўваецца яшчэ адна падваліна сённяшняй знешняй палітыкі Беларусі — імкненне да разбраення, жаданне пазбавіцца сучаснай зброі. Тэма гэта даволі супярэчлівая, складаная, яе не вырашыць ў газетных артыкулах. Але каб яе зазначыць, звернемся зноў да еўрапейскіх аўтарытэтаў, на гэты раз да Маргарэт Тэтчар і прыгадаем, як яна павучала вядомага савецкага пацыфіста, тлумачыла яму, кіраўніку звышдзяржавы, якую ролю адыграла сучасная зброя ў падтрыманні міру за апошнія паўстагоддзя.

**Пацыфізм як грамадска-палітычная плынь XX стагоддзя, ад Ж. Жарэса да Д. Сахарава, здабыў вялікія заслугі перад чалавецтвам. Ён актыўна і станоўча паўплываў на міжнародныя адносіны, на іх змест і маральны бок. Але калі пацыфістамі становяцца не грамадскія дзеячы, а дзяржаўныя мужы, дык гэта навявае ўспаміны аб сумных выпадках гісторыі. Дастаткова прыгадаць пазіцыю кіраўнікоў некаторых еўрапейскіх дзяржаў напярэдадні другой сусветнай вайны, калі іх пацыфісцкія заявы і спробы заспакоіць агрэсара абярнуліся ваеннай трагедыяй для народаў і дзяржаў. Ды і ва ўсіх іншых сюжэтах гісторыі лепш узброеная дзяржава мела больш шанцаў пазбегнуць знешняй пагрозы.**

Спецыялістам — вайскоўцам, эканамістам, палітыкам — яшчэ ёсць час падлічыць, якая зброя таннейшая ў сучасных умовах. І ці варта спяшацца з дэмантажом звышмоцных вайсковых тэхналогій, прысутнасць якіх на тэрыторыі Беларусі робіць яе практычна недатыкальнай для чужых узброеных сіл? Ва ўсякім разе зразумела, што мір і незалежнасць Беларусі цяжка было б абараніць толькі заявамі і подпісамі, скажам, удзельнікаў Антыкрызіснага камітэта.

Зрэшты, сучасную знешнюю палітыку Беларусі цяжка аспрэчваць, калі мець на ўвазе адсутнасць у рэспубліцы ўласных Узброеных Сіл. Бо палітыка дзяржавы, якая не мае сваіх войскаў і сучаснай ваеннай тэхнікі, наўрад ці заважыць больш, чым заклікі грамадскіх арганізацый ці выступленне знешнепалітычнага аглядальніка па тэлебачанні.

Свае войска — гэта зусім неабавязкова нейкія нацыянальныя амбіцыі ці праяўленне мілітарысцкага чаду. Прыгадаем, што ў паўднёвых рэспубліках былога Саюза палілася кроў, пачаліся войны пры адсутнасці нацыянальных армій. У цывілізаваным свеце рэгулярныя арміі ствараюцца не для таго, каб ваяваць, а каб прадухіліць узброеныя канфлікты; не для таго, каб арганізоўваць перавароты і перадаваць уладу хунтам і дыктатарам, а для таго, каб утаймаваць такую спакусу, калі яна ў каго-небудзь узнікне. Гэта трэба ўсвядоміць і нашым суседзям, каб ваеннае будаўніцтва не выклікала ў іх якіх-небудзь падазрэнняў. Тут якраз і застаецца абложнае поле працы для беларускай дыпламатыі і знешнепалітычнай прапаганды.

**Леанід ЛОЙКА.**

---

# Закон прынялі. І «завалілі» справу

### ЯК СЛУЖЫЦЬ ІНТАРЭСАМ АХОВЫ ПРЫРОДЫ ЭКАЛАГІЧНЫ ПАДАТАК

Пазалетась Саўмін рэспублікі прыняў доўгачаканую пастанову «Аб нарматывах платы за выкіды (скідванні) забруджваючых рэчываў у прыроднае асяроддзе і фондах аховы прыроды». Нарэшце яе бясплатнаму эксплуатаванню быў пакладзены канец.

І вось з першага студзеня мінулага года ўсе прадпрыемствы і арганізацыі (у тым ліку і Гродзеншчыны) пачалі за кошт уласнага прыбытку разлічвацца за нанесеную навакольнаму асяроддзю шкоду. Прычым, грошы накіроўваліся не абы-куды, а ў спецыяльны фонд аховы прыроды, створаны пры абласным камітэце па экалогіі. Вынік: у мінулым годзе ў гэты фонд паступіла 10 мільёнаў рублёў, у тым ліку 9 мільёнаў — за выкіды шкодных рэчываў у навакольнае асяроддзе. Заканамернае пытанне: які ж лёс сродкаў?

— Яны выкарыстоўваліся толькі на прыродаахоўныя мэты, — запэўнівае старшыня абласнога камітэта па экалогіі П. Путро. — Напрыклад, на будаўніцтва, тэхнічнае пераўзбраенне, рэканструкцыю і капітальны рамонт прыродаахоўных аб'ектаў, праектна-вышукальныя і доследна-канструктарскія работы па стварэнню новых відаў прыродаахоўнай тэхнікі і тэхналогіі, укараненне аўтаматызаваных сістэм маніторынгу, тэхнічных сродкаў для іх.

Летась з фонду аховы прыроды па прапановах мясцовых Саветаў народных дэпутатаў на гэтыя і іншыя мэты накіраваны сотні тысяч рублёў. Напрыклад, прафінансавана рэканструкцыя старадаўніх паркаў і ставоў у вёсках Усялюб і Шчорсы Навагрудскага, Жамыслаўль Іўеўскага, Жукаўшчына і Янаўшчына Дзятлаўскага, Янаўскага вадасховішча Астравецкага раёнаў. Добраўпарадкаваны водаахоўныя зоны ракі Ашмянка Ашмянскага раёна, Оксны ў Смаргоні, старадаўніх парку і ставоў у вёсцы Багатырэвічы Мастоўскага раёна, дзе Эліза Ажэшка напісала раман «Над Нёманам» і іншыя свае творы.

23 кастрычніка мінулага года Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Закон «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі» (экалагічны падатак), у адпаведнасці з якім падатак за карыстанне прыроднымі рэсурсамі поўнасцю залічваецца ў даход мясцовых бюджэтаў, за выключэннем падатку на здабычу нафты, солі калійнай і сталовай, 50 працэнтаў якога падлягае залічэнню ў даход рэспубліканскага бюджэту. «Падатак на выкіды (скідванні) забруджваючых рэчываў у навакольнае асяроддзе поўнасцю залічваецца ў даход мясцовых бюджэтаў». Аб выкарыстанні грашовых плацяжоў за прыродакарыстанне ў законе — ні слова.

— Пацікавіўся я нядаўна ў начальніка ўпраўлення фінансаў аблвыканкома, — расказвае П. Путро, — ці ёсць нейкі механізм выкарыстання падатку за прыродакарыстанне, што прадугледжваецца вярнуць прыродзе ў якасці частковай кампенсацыі за нанесеную ёй шкоду і якім чынам гэта зрабіць. Нічога абнадзейваючага ў адказ не пачуў. Атрымліваецца, што ў адпаведнасці з вышэйназваным законам экалагічны падатак будзе забірацца разам з іншымі формамі падатку і выкарыстоўвацца на самыя розныя мэты, сярод якіх, можна думаць, ахова прыроды будзе далёка не першачарговай.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

---

БІЗНЕС І ПАЛІТЫКА

# КАМПРАМІС ЦІ УЛЬТЫМАТУМ. ШТО ВЫБЕРАМ?

### Айчыннае прадпрымальніцтва знаходзіцца сёння на своеасаблівым палітычным раздарожжы. Гэта яшчэ раз падкрэсліў ход другой асамблеі дзелавых колаў Беларусі

**Мы па-сутнасці толькі пачалі шлях да рынку, але ўжо маем спад вытворчасці, зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва. Мог бы пасадзейнічаць змякчэнню гэтага ўдару беларускі бізнес? «Маглі б,— скардзяцца прадпрымальнікі,— каб не былі звязаны па руках і нагах».**

**Такой па танальнасці была адна з асноўных нот, якая прагучала на першай асамблеі дзелавых колаў. На другой асамблеі тон яе стаў куды больш жорсткім.**

— З шаснаццаці мерапрыемстваў, намечаных першай асамблеяй, большасць з таго, што залежала ад нашага саюза і ўрада рэспублікі, выканана,— адзначыў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі У. Карагін.— З боку ж Вярхоўнага Савета многае не рэалізавана. Магчыма, былі зададзены жорсткія тэрміны. А можа тут праявілася няздольнасць парламента вырашаць прынцыповыя праблемы?

Пытанне пастаўлена, і яго ніяк не назавеш штучным, бо яно напрамую вынікае з сённяшняй сацыяльна-эканамічнай сітуацыі. Хто-ніхто, тым не менш, загадзя зрабіў выснову: маўляў, прадпрымальнікі... ірвуцца да ўлады. Няўжо бізнесмены, дзелавыя людзі сапраўды ўжо бачаць сябе ў ролі палітычных дыктатараў?

**ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю ў кулуарах асамблеі дае першы намеснік Старшыні Саўміна рэспублікі М. МЯСНІКОВІЧ:**

**— Міхаіл Уладзіміравіч, нядаўна вы разам з У. Карагіным прымалі ўдзел у эканамічнай канферэнцыі «Усход—Захад». Вашы паведамленні аб падтрымцы прыватнага бізнесу выклікалі на Захадзе станоўчы рэзананс. Такая пазіцыя—гэта ўсур'ёз і надоўга?**

**— Менавіта так. Для таго каб стабілізаваць эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы, лічу, абавязкова трэба прыцягваць малы і сярэдні бізнес. Яму можна дапамагчы ці падатковымі льготамі, ці за кошт дзяржбюджэту. Неабходна дапамагаць новым структурам і шляхам допуску іх да рынку рэсурсаў.**

**— Ці заўважылі вы ў лідэра беларускіх прадпрымальнікаў, як пагаворваюць, імкненне да ўлады?**

**— Такое меркаванне, думаю, беспадстаўнае. Яны ж бізнесмены, а не прафесіянальныя палітыкі. А тое, што яны жадаюць большай свабоды для сваёй дзейнасці, зусім зразумела...**

ШОК АД ГЭТАЙ «шокавай тэрапіі» ўжо зрабіўся пастаянным. А дзе ж, вобразна кажучы, той самы тэрапеўт, які вылечыць хворую эканоміку? Ім у пэўнай ступені, разам з іншымі структурамі, абавязаны стаць наш дамарослы бізнес. Значыць, яго трэба гадаваць, дапамагаць яму.

Як паказваюць сённяшнія рэаліі, кожная краіна СНД выбірае свой шлях. Што чакае Беларусь у сістэме міжнароднага падзелу працы, куды мы так імкнёмся і куды, дарэчы, нас не супраць уцягнуць і той жа Захад? На якіх, аднак, умовах ён гэта хоча зрабіць? Яго прыцягваюць танная кваліфікаваная рабочая сіла, магчымасць перавесці да нас шкодную вытворчасць і ўзяць з Беларусі каштоўную сыравіну. Дык што, нам наканаваны лёс краін так званага «трэцяга свету»? Нашаму бізнесу зусім па сілах канкурыраваць на міжнароднай арэне. Вывад адсюль адназначны: неабходна мець сваю, нацыянальна акрэсленую эканамічную палітыку, у тым ліку і ў адносінах да дамарослага бізнесу. Вось пункт гледжання віцэ-прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў М. Шавельзона:

— Першыя этапы нашай «прадпрымальніцкай рэвалюцыі», калі ішла барацьба вакол падаткаў і іх выкарыстання, мы ўжо прайшлі. Абставіны вымушаюць нас заняцца і палітыкай у сферы эканомікі. У гэтай сувязі ўзнікае пытанне: калі Вярхоўны Савет хоча праводзіць рэформы, то якія? Што збіраецца будаваць: сацыялізм з чалавечым тварам, капіталізм ці наогул нейкі незразумелы «славянскі рынак»?

І гэта пытанне не назавеш неправамерным. Як, дарэчы, і куды больш жорсткі вывад, змешчаны ў канцэпцыі Дзяржаўнай праграмы падтрымкі прадпрымальніцтва: недастатковае яго развіццё «пакідае палітычнае рашэнне аб пераводзе рэспублікі ў рыначны рэжым на правал».

**ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў У. КАРАГІНА:**

**— Прадпрымальнікі, у асноўным станоўча ставячыся да ўзроўню супрацоўніцтва з урадам, крытыкуюць парламент. Што апошні можа зрабіць для пад'ёму бізнесу, разнявлення ініцыятывы людзей у цэлым?**

**— Усё! Калі, вядома, цалкам асэнсавана паставіць гэта сваёй мэтай.**

КІРАЎНІЦТВУ САЎМІНА, якое ў апошні час дэманструе пэўную гатоўнасць да рыначных рэформ, лягчэй знаходзіць агульную мову з бізнесам. Адчуваў сваю праўду і першы намеснік беларускага прэм'ера М. Мясніковіч, калі з трыбуны асамблеі сказаў:

— Рыначная эканоміка — не што іншае, як афіцыяльна аформленае функцыяніраванне прыватнага капіталу — гэту ісціну час прызнаць усім. Праграма развіцця прадпрымальніцтва — па сутнасці дзяржаўнае прызнанне бізнесу, разуменне неабходнасці яго падтрымкі.

Так, урад пагаджаецца з праграмай падтрымкі бізнесу. Паглядзіце, аднак, што запісана ў яе канцэпцыі: неабходна прадугледзець «канстытуцыйнае замацаванне неад'емнага права прыватнай уласнасці», яе абарону і недатыкальнасць. Няўжо хто-небудзь думае, што артадаксальныя дэпутаты - наменклатуршчыкі ў гэтым выпадку змогуць, што называецца, «адмовіцца ад прынцыпаў»? Ці трэба здзіўляцца, што на сваім форуме прадпрымальнікі выказваліся за змяненне Канстытуцыі рэспублікі і ўвядзенне прэзідэнцкай формы праўлення, за выбары прэзідэнта, а таксама новага саставу прафесіянальнага парламента?

Генератарам дыскусіі на гэтую тэму выступіў, дарэчы, зусім не бізнесмен, а член ВС, старшыня Маладзечанскага гарвыканкома Г. Карпенка, які кінуў у залу не самыя дыпламатычныя словы:

— Пакуль бізнес не мае свайго палітычнага твару, ён будзе заставацца палітычным імпатэнтам!

**ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю першага намесніка генеральнага дырэктара Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі В. ШАШКОВА:**

**— Як бачым, бізнесмены ў сваёй масе значна палітызаваліся. Валерый Віктаравіч, мусіць, кіраўнікі - гаспадарнікі з дзяржаўных прадпрыемстваў паводзяць сябе больш сціпла?**

**— Я гэтага не сказаў бы. Глядзіце, прэзідэнт расійскага Саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў А. Вольскі, заклікае да стварэння партыі працы. І мы ў БНПА таксама прыйшлі да думкі аб стварэнні свайго палітычнага руху, каб нашы прадстаўнікі адстойвалі ў органах улады нашы інтарэсы. Лічу, што гэта нармальная з'ява.**

ЗАКОН ДРАМАТУРГІІ, як вядома, ад любой п'есы патрабуе наяўнасці трох прынцыпаў: адзінства месца, дзеяння і часу. Здарылася ж так, што на асамблеі другое складаемае нечакана выпала. Прычына відавочная: некаторых прадстаўнікоў бізнесу са сферы палітыка-эканамічнай занесла ў сферу голай палітыкі.

Аўтару гэтых радкоў раней чамусьці думалася, што асноўным пастулатам гэтага боку дзейнасці беларускага бізнесу з'яўляўся наступны: паколькі прадпрымальніцтву неабходна падтрымка палітычных партый, то яно, у сваю чаргу, будзе падтрымліваць тыя з іх, якія стаяць за развіццё рынку.

Тым больш незразумелымі падаліся прапановы віцэ-прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў С. Скварчэўскага, які да гэтай канцэпцыі паспрабаваў прыплюсаваць неабходнасць збірання «салідных сіл»—структур бізнесу разам з прафсаюзамі (?) і новымі палітычнымі партыямі. Засталося незразумелым, з якой мэтай трэба трубіць вялікі збор: ці то каб з большым поспехам уздзейнічаць за сталом перагавораў на вярхоўныя ўлады, ці наогул размаўляць з імі з пазіцыі сілы? Таму вельмі абгрунтаваным можна палічыць адказ вядомага парламентарыя П. Садоўскага: дэмакратыя не прыме таго, каб змяненні ў палітыка-прававой сістэме рабілі, скажам, матрос Жалязняк ці тыднёвая стачка. Да гонару асамблеі, там зразумелі ўсю непадрыхтаванасць вышэйпамянёных заяў, а рэзалюцыю па ўзнятаму пытанню пакінулі на далейшую дапрацоўку. Вывад? Палітычнай культуры, як і дзелавой, трэба вучыцца.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

---

# В. БАЙДАК: «САМАСТОЙНАСЦІ ТРЭБА ВУЧЫЦЦА»

**Як ужо паведамлялася ў друку, урадам рэспублікі прынята пастанова «Аб арганізацыйных структурах кіравання дзяржаўным гандлем у Рэспубліцы Беларусь». Чым выклікана гэтае рашэнне? Як ідзе яго рэалізацыя? Што дадуць ажыццяўляемыя меры? На гэтыя і іншыя пытанні па просьбе службы інфармацыі Савета Міністраў адказвае міністр гандлю Беларусі В. БАЙДАК:**

— Асноўная канцэпцыя пастановы — гэта неабходнасць прадастаўлення максімальнай самастойнасці і свабоды магазінам, сталовым, рэстаранам і кафэ, а значыць, і поўнай адказнасці за вынікі работы. Інакш кажучы, размова ідзе аб камерцыялізацыі гандлю.

Да прыняцця такой пастановы падштурхнула само жыццё. Ні ў адной краіне свету пераход ад адміністрацыйна кіруемай гаспадаркі да рыначнай не адбываецца адразу. Гэтаму звычайна папярэднічае стадыя камерцыялізацыі, г. зн. рэжым жорсткага самафінансавання, самакіравання ўсёй бягучай і гаспадарчай дзейнасцю кожнага суб'екта. Камерцыялізацыя —гэта як бы генеральная рэпетыцыя рыначных адносін.

Сёння, калі літаральна на вачах дзяржаўныя структуры губляюць функцыі размеркавання тавараў, шматразова ўскладняюцца гаспадарчыя сувязі паміж прадпрыемствамі гандлю і шматлікімі пастаўшчыкамі, а таксама з прадпрыемствамі, якія аказваюць паслугі гандлю, калі галіна знаходзіцца на парозе масавай прыватызацыі, існуючыя гандлёвыя арганізацыі і трэсты самі не ў стане справіцца з усёй разнастайнасцю новых умоў работы. Толькі поўная свабода нізавога звяна, іх прамая зацікаўленасць і ініцыятыва здольны ў гэтых умовах вырашыць праблемы насычэння таварнага рынку і павышэння эфектыўнасці работы гандлю. Разам з тым менавіта такой свабоды ў пераважнай большасці магазінаў і сталовых сёння няма. Народжаныя адміністрацыйна-каманднай сістэмай гаспадарання, многія гандлёвыя арганізацыі і трэсты не даюць свабоды прадпрымальнікам, пад выглядам так званай «арэнды» жалезнай заслонай адгарадзіліся ад працэсу дэманапалізацыі і прыватызацыі гандлёвых аб'ектаў.

З другога боку, і гэта трэба прызнаць шчыра, многія сённяшнія кіраўнікі магазінаў, сталовых, кафэ і рэстаранаў не здольны самастойна працаваць. Яны прывыклі жыць і працаваць ва ўмовах цэнтралізаванай дзяльбы ўсяго і ўся толькі па камандах зверху, таму сёння ім не хапае камерцыйнай прадпрымальнасці, эканамічных ведаў, умення прагназіраваць сітуацыю, шукаць тавар, заключаць здзелкі. Гэта не іх віна. У большасці сваёй гэта граматныя, кваліфікаваныя спецыялісты, амаль 99 працэнтаў з іх маюць вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю. А сталі яны такімі таму, што ўсе дробныя і буйныя праблемы за іх вырашалі вышэйшыя гандлёвыя арганізацыі. Першарадная задача сёння — навучыць гэтых работнікаў камерцыі ва ўмовах поўнай самастойнасці. Няхай на першым этапе наб'юць гузакоў, затое навучацца справе. Ну, а хто не зможа — павінен уступіць месца іншаму, больш здольнаму. Узначаліць калектывы могуць і спецыялісты трэстаў або гандлёвых арганізацый, якія добра ведаюць гандаль і грамадскае харчаванне. Гэта пытанне асабліва важнае, таму што не за гарамі прыватызацыя. І калі ў рэспубліцы будзе вызначаны парадак прыватызацыі (як у Расіі і Літве), які выключае арэнду з выкупам, а ўсе аб'екты гандлю будуць прададзены на конкурсе ці аўкцыёне, то многія іх калектывы з-за няўмення кіраўніка апынуцца на вуліцы.

Адразу ж ліквідаваць усе гандлёвыя арганізацыі і трэсты з прадастаўленнем поўнай самастойнасці магазінам, сталовым, рэстаранам, кафэ зусім не проста. Сапраўды, сотні гандлёвых калектываў у кожным горадзе не падрыхтаваныя да такога павароту падзей, разгублена спрабуюць зразумець што ж ім рабіць са сваёй самастойнасцю.

Вядома, суровая рэчаіснасць рыначнага гандлю прымусіць людзей або навучыцца зводзіць канцы з канцамі, або ўступіць месца іншым. Але ж у гэты час будуць пакутаваць пакупнікі!

Каб гэтага не здарылася, вялікую работу трэба правесці выканкомам мясцовых Саветаў, якія з'яўляюцца ўладальнікамі маёмасці аб'ектаў гандлю. Яны, на нашу думку, павінны вызначыць форму рэарганізацыі гандлёвых арганізацый і трэстаў (адначасовы раздзел на самастойныя прадпрыемствы ці паступовае выдзяленне іх з саставу магазінаў і сталовых), якую сетку перадаць прамысловым прадпрыемствам, навучальным установам, саўгасам, калгасам; дапамагчы новаствораным прадпрыемствам выбраць найбольш прымальны (з улікам мясцовых умоў) від добраахвотнага аб'яднання.

Праўда, ёсць сур'ёзныя апасенні, што паспешлівыя і непрадуманыя дзеянні могуць прывесці да яшчэ большага напружання на спажывецкім рынку, ускладніць і без таго няпростую сацыяльную абстаноўку ў рэспубліцы.

Сапраўды, рэальнасць такая, што ўсе харчовыя магазіны і сталовыя сёння стратныя. Ледзь зводзяць канцы з канцамі і нехарчовая сетка, на лепшых прадпрыемствах рэнтабельнасць не перавышае 2 працэнтаў.

Галіна сёння, па сутнасці, банкрут і не можа расплаціцца за атрыманыя тавары. Склады прамысловых прадпрыемстваў запоўнены гатовай прадукцыяй, якую гандаль не можа атрымаць з-за сваёй неплацежаздольнасці, а фабрыкі і заводы гатовы патрэбныя насельніцтву тавары адгружаць за межы рэспублікі.

У гэтых умовах трэба дзяліць гандлёвыя арганізацыі і трэсты на мноства самастойных дробных прадпрыемстваў, якія пачнуць сваё новае жыццё без гроша ў кішэні, у якіх уласных сродкаў — кот наплакаў. А пад «чэснае высакароднае слова» ні адзін банк ні пад якія працэнты не адважыцца выдаць больш-менш значную суму.

Праўда, па нашай ініцыятыве Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі разгледзелі існуючую ў гандлі сітуацыю. Прынята рашэнне, па якім транспартныя расходы пры іншагародніх пастаўках аднесены на рахунак пастаўшчыка, праведзена дыферэнцыяцыя гандлёвых скідак і нацэнак па відах тавару, гандлю выдзелены 1 млрд. руб. крэдыту.

Вярхоўны Савет па прапанове ўрада адмяніў падатак на дабаўлены кошт для сталовых. Мы спадзяёмся, што і ў далейшым цвярозы сэнс будзе браць верх над існуючымі стэрэатыпамі ў адносінах да гандлю, рашэнні будуць прымацца эканамічна абгрунтаваныя і ўзважаныя (хоць, будзем шчырымі, —і ў самім гандлі ёсць шмат парушэнняў, ёсць вялікія нявыкарыстаныя рэзервы і магчымасці).

Выклікае сур'ёзныя апасенні ў выканаўцаў усіх узроўняў забеспячэнне дакладнай сістэмы таваразабеспячэння і дагаворных адносін з пастаўшчыкамі тавараў — прамысловасцю і оптам. Размеркаванне дагаворных адносін і разлікаў паміж вялікай колькасцю пакупнікоў (толькі ў сістэме Мінгандлю налічваецца каля 9 тысяч аб'ектаў) выклікае яўнае супраціўленне пастаўшчыкоў.

Нават тыя кіраўнікі, з якімі мне даводзілася сустракацца, адназначна заяўляюць, што ніякіх дагавораў з магазінамі і сталовымі яны заключаць не будуць. І гэта можна зразумець, таму што манапаліст-вытворца хоча працаваць з манапалістам-прадаўцом.

Мы звяртаемся да кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, прамысловых прадпрыемстваў, якія выпускаюць тавары народнага спажывання, старшынь выканкомаў і просім максімальнай падтрымкі ў гэтым пытанні, без вырашэння якога намечаная рэарганізацыя стане немагчымай і прывядзе да зрываў у забеспячэнні насельніцтва. Нам трэба захаваць адпрацаваную сістэму цэнтравывазу, не дапускаючы дэцэнтралізацыі дастаўкі тавараў і павелічэння транспартных расходаў. Існуючы кальцавы завоз тавараў мясцовымі пастаўшчыкамі і аптовымі базамі ў буйных гарадах можа ажыццяўляцца пры ўдзеле канцэрнаў, гаспадарчых асацыяцый, гарадскіх гандлёва-закупачных баз. Што гэта за структуры?

Сёння для ўсіх відавочна, што новастворaныя гандлёвыя прадпрыемствы на пачатковым этапе самастойна не выжывуць і будуць мець патрэбу ў вырашэнні такіх пытанняў, як забеспячэнне таварнымі рэсурсамі, арганізацыя іх дастаўкі, захаванне, а таксама падрыхтоўка кадраў, рэкламнае і тэхнічнае абслугоўванне, вытворчае і сацыяльнае развіццё, метадалагічнае забеспячэнне. Гэтыя функцыі і возьмуць на сябе добраахвотна ствараемыя аб'яднанні — асацыяцыі, канцэрны, акцыянерныя таварыствы, фірмы і да т. п.

Розніца паміж дзеючымі структурамі і добраахвотнымі аб'яднаннямі прынцыповая: у першым выпадку — усеўладдзе гандлёвай арганізацыі і трэста і бяспраўе магазінаў і сталовых. Поўная самастойнасць нізавога звяна з аплатай за паслугі, якія выканае канцэрн ці іншая структура, — у другім. Такія аб'яднанні ці фірмы могуць стварацца на гарадскім, абласным і рэспубліканскім узроўнях.

На наш погляд, востра стаіць пытанне стварэння дробнай гандлёва-пасрэдніцкай сеткі, здольнай выступіць канкурэнтам дзеючым буйным абласным аптовым базам. Яе неабходна стварыць з тым, каб кожны магазін не ганяў машыну за сотняй кілаграмаў мукі, мяса ці цукру, а мог іх атрымаць у любым горадзе.

Хочацца верыць, што гэту складаную, неардынарную работу гандаль разам з выканкомамі правядзе ўзважана, разумна, без лішняй мітусні. Мы глыбока перакананы, што сёння няма іншага шляху паляпшэння гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, чым адраджэнне яе першаснага звяна, яе каранёвай сістэмы — магазінаў, сталовых, рэстаранаў, кафэ, дзе, уласна, і вырашаецца лёс гандлю. У рэшце рэшт: якая каранёвая сістэма — такая і верхавіна дрэва.

# АБ ПЕНСІЁННЫМ ЗАБЕСПЯЧЭННІ

## РАЗДЗЕЛ І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Права грамадзян у Рэспубліцы Беларусь на дзяржаўнае пенсіённае забеспячэнне**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на дзяржаўнае пенсіённае забеспячэнне ў старасці, пры інваліднасці, страце карміцеля і ў іншых выпадках, прадугледжаных гэтым Законам.

Пенсіённае забеспячэнне грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пражываюць за яе межамі, праводзіцца на аснове пагадненняў (дагавораў) з іншымі дзяржавамі.

Грамадзяне іншых дзяржаў і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, маюць права на пенсію нараўне з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам.

У тых выпадках, калі пагадненнямі (дагаворамі) аб сацыяльным забеспячэнні паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі дзяржавамі прадугледжаны іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, адпаведна прымяняюцца правілы, устаноўленыя гэтымі пагадненнямі (дагаворамі).

**Артыкул 2. Пенсіённае забеспячэнне ваеннаслужачых і іх сем'яў**

Умовы, нормы і парадак пенсіённага забеспячэння ваеннаслужачых, а таксама асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і членаў іх сем'яў рэгулююцца заканадаўствам аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых.

Ваеннаслужачым, асобам начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў і членам іх сем'яў прадастаўляецца таксама права на атрыманне пенсій на падставах, прадугледжаных гэтым Законам. Пры гэтым усе віды грашовага забеспячэння ваеннаслужачых, а таксама асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў улічваюцца нараўне з заработнай платай рабочых і служачых.

**Артыкул 3. Пенсіённае забеспячэнне асоб, пацярпеўшых у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і членаў іх сем'яў**

Пенсіённае забеспячэнне асоб, пацярпеўшых у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і членаў іх сем'яў праводзіцца з улікам умоў і норм, прадугледжаных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

**Артыкул 4. Віды пенсій**

Па гэтаму Закону назначаюцца:

а) працоўныя пенсіі:
па ўзросту;
па інваліднасці;
з выпадку страты карміцеля;
за выслугу гадоў;

б) сацыяльныя пенсіі.

**Артыкул 5. Асобы, якія маюць права на пенсію**

Права на працоўную пенсію маюць асобы, занятыя грамадска карыснай працай або іншай дзейнасцю, якая залічваецца ў стаж работы (частка першая і пункты «а» — «н» артыкула 51 гэтага Закона), і іх сем'і, а таксама навучэнцы агульнаадукацыйных школ (пункт «ж» артыкула 29) пры захаванні іншых умоў, прадугледжаных гэтым Законам.

Непрацаздольныя грамадзяне, якія не атрымліваюць працоўную пенсію, маюць права на сацыяльную пенсію на ўмовах, што вызначаюцца гэтым Законам.

**Артыкул 6. Права выбару пенсіі**

Асобам, якія маюць адначасова права на розныя дзяржаўныя пенсіі, назначаецца адна пенсія па іх выбару.

**Артыкул 7. Зварот за назначэннем пенсіі**

Зварот за назначэннем пенсіі можа ажыццяўляцца ў любы час пасля ўзнікнення права на пенсію без абмежавання якім-небудзь тэрмінам.

Пры гэтым пенсіі па ўзросту і па інваліднасці назначаюцца незалежна ад таго, спынена работа да часу звароту за пенсіяй або працягваецца. Пенсіі за выслугу гадоў назначаюцца пры пакіданні работы, якая дае права на гэту пенсію.

**Артыкул 8. Сродкі на выплату пенсій. Вызваленне пенсій ад падаткаў**

Выплата пенсій ажыццяўляецца з фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь не ўваходзіць у склад дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь. фарміруецца за кошт узносаў работадаўцаў, страхавых узносаў асоб, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, абавязковых страхавых узнюсаў грамадзян, а таксама сродкаў дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь.

Палажэнне аб Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь і тарыфы страхавых узносаў зацвярджаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Пенсіі, якія выплачваюцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, не падлягаюць абкладанню падаткамі.

**Артыкул 9. Органы, якія ажыццяўляюць пенсіённае забеспячэнне**

Пенсіённае забеспячэнне па гэтаму Закону праводзіцца органамі сацыяльнага забеспячэння. Кіраванне Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца ў парадку, які вызначаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Пытанні, якія адносяцца да ведання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Да ведання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, апрача прадугледжаных у гэтым Законе, адносяцца таксама пытанні, звязаныя з парадкам назначэння і выплатай пенсій, вызначэннем асаблівасцей вылічэння стажу асобных катэгорый грамадзян з захаваннем гарантый, прадугледжаных гэтым Законам.

## РАЗДЗЕЛ ІІ. ПЕНСІІ ПА ЎЗРОСТУ

**Артыкул 11. Умовы назначэння пенсій на агульных падставах**

Права на пенсію па ўзросту маюць:

мужчыны — па дасягненні 60 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў;

жанчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў.

**Артыкул 12. Пенсіі за работу з асаблівымі ўмовамі працы**

Права на пенсію па ўзросту ў сувязі з асаблівымі ўмовамі працы незалежна ад месца апошняй работы маюць:

а) работнікі, занятыя поўны рабочы дзень на падземных работах, на работах з асабліва шкоднымі і асабліва цяжкімі ўмовамі працы, — па спісу № 1 вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў і па выніках атэстацыі рабочых месцаў:

мужчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 10 гадоў на ўказаных работах;

жанчыны — па дасягненні 45 гадоў і пры стажы работы не менш 15 гадоў, з іх не менш 7 гадоў 6 месяцаў на ўказаных работах.

Работнікам, якія маюць не менш палавіны стажу работы з асабліва шкоднымі і асабліва цяжкімі ўмовамі працы, пры наяўнасці агульнага стажу работы не менш 25 гадоў у мужчын і 20 гадоў у жанчын пенсіі назначаюцца з памяншэннем узросту, прадугледжанага артыкулам 11 гэтага Закона, на 1 год — за кожны поўны год такой работы мужчынам і за кожныя 9 месяцаў такой работы жанчынам;

б) работнікі, занятыя поўны рабочы дзень на іншых работах са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, — па спісу № 2 вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў і па выніках атэстацыі рабочых месцаў:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 12 гадоў 6 месяцаў на ўказаных работах;

жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 10 гадоў на ўказаных работах.

Работнікам, якія маюць не менш палавіны стажу работы са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, пры наяўнасці агульнага стажу работы не менш 25 гадоў у мужчын і 20 гадоў у жанчын пенсіі назначаюцца з памяншэннем узросту, прадугледжанага артыкулам 11 гэтага Закона, на 1 год — за кожныя 2 гады 6 месяцаў такой работы мужчынам і за кожныя 2 гады такой работы жанчынам;

в) работніцы тэкстыльнай вытворчасці, занятыя на станках і машынах, — па спісу вытворчасцей і прафесій, які зацвярджаецца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы ўказанай работы не менш 20 гадоў;

г) жанчыны, якія працуюць трактарыстамі - машыністамі, машыністамі будаўнічых, дарожных і пагрузачна-разгрузачных машын, зманціраваных на базе трактароў і экскаватараў, — па дасягненні 50 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 15 гадоў на ўказанай рабоце;

д) трактарысты - машыністы, непасрэдна занятыя ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі: мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 20 гадоў на ўказанай рабоце;

е) жанчыны, якія працуюць даяркамі (аператарамі машыннага даення), цялятніцамі, свінарамі-аператарамі ў калгасах, саўгасах, іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі, — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы ўказанай работы не менш 20 гадоў пры ўмове выканання ўстаноўленых норм абслугоўвання.

Нормы абслугоўвання для гэтых мэт устанаўліваюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

ж) вадзіцелі гарадскога пасажырскага транспарту (аўтобусы, тралейбусы, трамваі) і асобных прыгарадных маршрутаў, па ўмовах працы прыраўнаваных да гарадскіх перавозак:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 20 гадоў на ўказанай рабоце;

жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 15 гадоў на ўказанай рабоце.

Прыраўнаванне асобных прыгарадных маршрутаў па ўмовах працы да гарадскіх перавозак праводзіцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Прадпрыемствы і арганізацыі са сродкаў, прызначаных на аплату працы, кампенсуюць Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь расходы на выплату пенсій у адпаведнасці з пунктам «б» гэтага артыкула з разліку трох працэнтаў рабочых месцаў са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы ў размеры: 70 працэнтаў — у 1993 годзе, 80 працэнтаў — у 1994 годзе, 90 працэнтаў — у 1995 годзе і 100 працэнтаў — з 1996 года.

У перыяд да 1996 года работнікам іншых вытворчасцей, прафесій і пасад датэрміновыя пенсіі ў залежнасці ад умоў працы (але не раней чым па дасягненні 55 гадоў мужчынамі і 50 гадоў жанчынамі) могуць устанаўлівацца па выніках атэстацыі рабочых месцаў за кошт сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый, прызначаных на аплату працы, да дасягнення работнікам пенсіённага ўзросту, прадугледжанага артыкулам 11 гэтага Закона.

**Артыкул 13. Пенсіі работнікам, занятым на падземных і адкрытых горных работах**

Работнікі, непасрэдна занятыя поўны рабочы дзень на падземных і адкрытых горных работах (уключаючы асабовы склад горнавыратавальных часцей) па здабычы вугалю, сланцу, руды, граніту і іншых карысных выкапняў, на будаўніцтве шахт і руднікоў (па спісу работ і прафесій), маюць права на пенсію незалежна ад узросту, калі яны былі заняты на гэтых работах не менш 25 гадоў, а работнікі вядучых прафесій на гэтых работах: горнарабочыя ачышчальнага забою, праходчыкі, забойшчыкі на адбойных малатках, машыністы горных выемачных машын — пры ўмове, калі яны былі заняты на гэтых работах не менш 20 гадоў.

Пры наяўнасці стажу на падземных работах менш 10 гадоў у мужчын і менш 7 гадоў 6 месяцаў у жанчын і агульнага стажу не менш 25 гадоў у мужчын і не менш 20 гадоў у жанчын пенсіённы ўзрост, прадугледжаны артыкулам 11 гэтага Закона, зніжаецца на 1 год — за кожны поўны год такой работы мужчынам і за кожныя 9 месяцаў такой работы жанчынам.

**Артыкул 14. Спісы работ і вытворчасцей з асаблівымі ўмовамі працы і кантроль за правільнасцю іх прымянення**

Пры назначэнні пенсіі за работу з асаблівымі ўмовамі працы (пункты «а» і «б» артыкула 12 і артыкул 13) прымяняюцца спісы вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў, якія зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Кантроль за правільнасцю прымянення спісаў вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў з асаблівымі ўмовамі працы на прадпрыемствах і ў арганізацыях і якасцю правядзення атэстацыі працоўных месцаў, падрыхтоўка заключэнняў па гэтых пытаннях і прапаноў па ўдасканаленню спісаў і парадку іх прымянення ўскладаюцца на органы дзяржаўнай экспертызы ўмоў працы Рэспублікі Беларусь. Палажэнне аб органах дзяржаўнай экспертызы ўмоў працы і парадак правядзення атэстацыі рабочых месцаў зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Парадак назначэння пенсій за работу з асаблівымі ўмовамі працы асобам, якія мелі права на яе да ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона**

Асобам, якія працавалі да ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона на работах са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, прадугледжаных раней дзеючымі спісамі № 1 і № 2, пенсіі па ўзросту назначаюцца на наступных умовах:

а) асобам, якія маюць да дня ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона поўны стаж на ўказаных работах, што даваў права на пенсію на льготных умовах, пенсіі ў размерах, прадугледжаных гэтым Законам, назначаюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі па ўзросту і стажу, устаноўленымі раней дзеючым заканадаўствам;

б) асобам, якія не маюць поўнага стажу работы са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, узрост, што патрабуецца для назначэння пенсіі ў адпаведнасці з артыкулам 11, зніжаецца прапарцыянальна наяўнаму стажу ў парадку, прадугледжаным пунктамі «а» і «б» артыкула 12 гэтага Закона зыходзячы з патрабаванняў гэтага стажу, устаноўленых раней дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 16. Узаемны залік перыядаў работы з рознымі ўмовамі працы**

Пры назначэнні пенсіі за работу з асаблівымі ўмовамі працы ў адпаведнасці з артыкулам 12 гэтага Закона праводзіцца ўзаемны залік перыядаў работы, прадугледжаных гэтым артыкулам, пры ўмове, што ўказаныя работы даюць права на пенсію на аналагічных або больш ільготных умовах.

**Артыкул 17. Пенсіі інвалідам вайны**

Ваеннаслужачыя, якія сталі інвалідамі з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, атрыманых пры выкананні абавязкаў ваеннай службы або з прычыны захворвання, звязанага са знаходжаннем на фронце, маюць права на пенсію па ўзросту:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў;

жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў.

**Артыкул 18. Пенсіі маці ваеннаслужачых**

Маці ваеннаслужачых, смерць якіх звязана з выкананнем абавязкаў ваеннай службы, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў.

**Артыкул 19. Пенсіі мнагадзетным маці**

Жанчыны, нарадзіўшыя пяць і больш дзяцей і выхаваўшыя іх да 8-гадовага ўзросту, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 50 гадоў (а таксама жанчыны, у якіх на гэты час пятае дзіця не дасягнула 8 гадоў) і пры стажы работы не менш 15 гадоў.

Жанчыны, нарадзіўшыя пяць і больш дзяцей і выхаваўшыя іх да 16-гадовага ўзросту, пры стажы работы ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі непасрэдна ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі не менш 10 гадоў (без заліку ў стаж часу догляду за дзецьмі) маюць права на пенсію незалежна ад узросту.

**Артыкул 20. Пенсіі бацькам інвалідаў з дзяцінства**

Маці інвалідаў з дзяцінства, якія выхоўвалі іх не менш 8 гадоў, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў.

Бацькі інвалідаў з дзяцінства, якія выхоўвалі іх не менш 8 гадоў, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў, калі маці інваліда з дзяцінства (дзіцяці-інваліда) адмовілася ад права на пенсію па ўзросту ў адпаведнасці з часткай першай гэтага артыкула на карысць бацькі.

**Артыкул 21. Пенсіі ліліпутам і карлікам**

Асобы, хворыя гіпафізарным нанізмам (ліліпуты), і дыспрапарцыянальныя карлікі маюць права на пенсію па ўзросту:

мужчыны — па дасягненні 45 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў;

жанчыны — па дасягненні 40 гадоў і пры стажы работы не менш 15 гадоў.

**Артыкул 22. Пенсіі інвалідам з дзяцінства**

Інваліды з дзяцінства маюць права на пенсію па ўзросту:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў;

жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў.

**Артыкул 23. Размеры пенсій**

Пенсіі па ўзросту назначаюцца ў размеры 55 працэнтаў сярэднямесячнага заработку (артыкул 56), але не ніжэй мінімальнага размеру пенсіі.

За кожны поўны год работы звыш 25 гадоў мужчынам і 20 гадоў жанчынам, а таксама за кожны поўны год работы з асаблівымі ўмовамі працы (пункт «а» артыкула 12 і артыкул 13) звыш 10 гадоў у мужчын і 7 гадоў 6 месяцаў у жанчын пенсія, у тым ліку мінімальная, павялічваецца на адзін працэнт заработку, але не менш чым на адзін працэнт мінімальнага размеру пенсіі. Павелічэнне праводзіцца ў межах 20 працэнтаў заработку (мінімальнага размеру пенсіі).

Мінімальны размер пенсіі па ўзросту ўстанаўліваецца ў размеры 100 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, якая вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 24. Пенсіі пры няпоўным стажы работы**

Асобам, якія не маюць дастатковага для назначэння поўнай пенсіі стажу работы (артыкул 11), назначаюцца пенсіі па ўзросту пры няпоўным стажы ў размеры, вылічаным прапарцыянальна наяўнаму стажу, але не менш 50 працэнтаў, а маці-гераіням — не менш 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту (артыкул 23).

Пры назначэнні пенсій пры няпоўным стажы не прымяняюцца льготныя ўмовы па ўзросту і стажу для назначэння пенсій, устаноўленыя гэтым Законам.

**Артыкул 25. Надбаўка да пенсіі**

Да пенсіі па ўзросту ўстанаўліваецца надбаўка на догляд:

інвалідам І групы — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

пенсіянерам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, а таксама іншым адзінокім пенсіянерам, якія маюць патрэбу па заключэнню медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій (МРЭК) або ўрачэбна-кансультацыйных камісій (УКК) у пастаяннай пабочнай дапамозе, — 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на надбаўку на догляд па розных падставах, прадугледжаных у гэтым артыкуле, надбаўка налічваецца па адной з указаных падстаў.

**Артыкул 26. Перыяд, на які назначаецца пенсія**

Пенсія па ўзросту назначаецца пажыццёва незалежна ад стану працаздольнасці.

## РАЗДЗЕЛ ІІІ. ПЕНСІІ ПА ІНВАЛІДНАСЦІ

**Артыкул 27. Умовы назначэння пенсій**

Пенсіі па інваліднасці назначаюцца ў выпадку надыходу інваліднасці з прычыны:

а) працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання;

б) агульнага захворвання (у тым ліку калецтва, не звязанага з работай, інваліднасці з дзяцінства).

Пенсіі па інваліднасці назначаюцца незалежна ад таго, калі настала інваліднасць, — у перыяд работы, да паступлення на работу або пасля спынення работы.

**Артыкул 28. Групы інваліднасці**

У залежнасці ад ступені страты працаздольнасці інваліды падраздзяляюцца на тры групы.

Прычыны і групы інвалідnасці, а таксама час, калі настала інваліднасць, устанаўліваюцца медыка-рэабілітацыйнымі экспертнымі камісіямі (МРЭК), якія дзейнічаюць на падставе Палажэння аб іх, што зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 29. Інваліднасць з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання**

Інваліднасць лічыцца настаўшай з прычыны працоўнага калецтва, калі няшчасны выпадак, які выклікаў інваліднасць, адбыўся (акрамя выпадкаў проціпраўнага дзеяння):

а) пры выкананні працоўных абавязкаў (у тым ліку ў час камандзіроўкі), а таксама пры выкананні якіх-небудзь дзеянняў у інтарэсах прадпрыемства або арганізацыі, хоць бы і без спецыяльнага даручэння;

б) па дарозе на работу або з работы;

в) на тэрыторыі прадпрыемства, арганізацыі або ў іншым месцы работы на працягу рабочага часу (уключаючы і ўстаноўленыя перапынкі), неабходнага для прывядзення ў парадак прылад вытворчасці, адзення і да т. п. перад пачаткам або па заканчэнні работы;

г) паблізу прадпрыемства, арганізацыі або іншага месца работы на працягу рабочага часу (уключаючы і ўстаноўленыя перапынкі), калі знаходжанне там не супярэчыла правілам унутранага працоўнага распарадку;

д) пры выкананні дзяржаўных абавязкаў, заданняў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, а таксама грамадскіх арганізацый, зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку, хоць бы гэтыя заданні і не былі звязаны з асноўнай работай;

е) пры выкананні грамадзянскага абавязку па выратаванню чалавечага жыцця, па ахове ўласнасці і правапарадку;

ж) пры праходжанні студэнтамі і навучэнцамі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, вучылішчаў, школ, у тым ліку агульнаадукацыйных, курсаў па падрыхтоўцы кадраў, аспірантамі і клінічнымі ардынатарамі вытворчага навучання або практыкі, практычных заняткаў.

Спіс прафесіянальных захворванняў зацвярджаецца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 30. Стаж работы, які дае права на пенсію**

Пенсіі па інваліднасці з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання (артыкул 29) назначаюцца незалежна ад стажу работы.

Пенсіі па інваліднасці з прычыны агульнага захворвання назначаюцца пры наяўнасці наступнага стажу работы да часу наступлення інваліднасці:

| Узрост | Стаж работы (у гадах) |
|---|---|
| Да дасягнення 23 гадоў | 1 |
| Ад 23 гадоў да дасягнення 26 гадоў | 2 |
| Ад 26 гадоў да дасягнення 31 года | 3 |
| Ад 31 года да дасягнення 36 гадоў | 5 |
| Ад 36 гадоў да дасягнення 41 года | 7 |
| Ад 41 года да дасягнення 46 гадоў | 9 |
| Ад 46 гадоў да дасягнення 51 года | 11 |
| Ад 51 года да дасягнення 56 гадоў | 13 |
| Ад 56 гадоў да дасягнення 61 года | 14 |
| Ад 61 года і старэйшы | 15 |

Калі быў набыты стаж работы, неабходны для адпаведнай узроставай групы, і работа працягвалася пры пераходзе ў наступную ўзроставую групу, то ўмова аб стажы лічыцца выкананай незалежна ад патрабаванняў, устаноўленых для наступнай узроставай групы.

Асобам, якія сталі інвалідамі з прычыны агульнага захворвання ў перыяд работы або пасля яе спынення да дасягнення 20 гадоў, пенсіі назначаюцца незалежна ад стажу работы.

Пры пераводзе з пенсіі па інваліднасці з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання на пенсію па інваліднасці з прычыны агульнага захворвання неабходны стаж вызначаецца па ўзросту да часу першапачатковага ўстанаўлення інваліднасці.

**Артыкул 31. Размеры пенсій**

Пенсіі па інваліднасці назначаюцца ў наступных размерах: інвалідам І групы — 75 працэнтаў, інвалідам ІІ групы — 65 працэнтаў, інвалідам ІІІ групы — 40 працэнтаў сярэднямесячнага заработку (артыкул 56).

Калі ў інвалідаў І, ІІ груп ёсць стаж работы, неабходны для назначэння пенсіі па ўзросту, у тым ліку за работу з асаблівымі ўмовамі працы, то пенсія па інваліднасці можа быць назначана ў размеры пенсіі па ўзросту пры адпаведным стажы работы.

Мінімальныя размеры пенсій устанаўліваюцца: па І і ІІ групах інваліднасці — 100 працэнтаў, па ІІІ групе інваліднасці — 50 працэнтаў, маці-гераіням (незалежна ад групы інваліднасці) — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту (артыкул 23).

**Артыкул 32. Пенсіі пры няпоўным стажы работы**

Інвалідам І, ІІ груп з прычыны агульнага захворвання, якія не маюць дастатковага для назначэння поўнай пенсіі стажу работы (артыкул 30), назначаецца пенсія па інваліднасці пры няпоўным стажы ў размеры, вылічаным прапарцыянальна наяўнаму стажу, але не ніжэй наступных размераў: інвалідам І групы — 100 працэнтаў, інвалідам ІІ групы — 50 працэнтаў, маці-гераіням (незалежна ад групы інваліднасці) — не менш 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 33. Надбаўка да пенсіі**

Да пенсіі па інваліднасці ўстанаўліваецца надбаўка на догляд:

інвалідам І групы — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

адзінокім інвалідам ІІ групы, якія маюць патрэбу па заключэнню МРЭК або УКК у пастаяннай пабочнай дапамозе, а таксама пенсіянерам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, — 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на надбаўку на догляд па розных падставах, прадугледжаных у гэтым артыкуле, надбаўка налічваецца па адной з указаных падстаў.

**Артыкул 34. Перыяд, на які назначаецца пенсія**

Пенсія назначаецца на ўвесь час інваліднасці, устаноўленай МРЭК. Інвалідам-мужчынам старэйшым за 55 гадоў і жанчынам старэйшым за 50 гадоў пенсія па інваліднасці назначаецца пажыццёва. Паўторны агляд гэтых інвалідаў праводзіцца толькі па іх заяве.

## РАЗДЗЕЛ IV. ПЕНСІІ З ВЫПАДКУ СТРАТЫ КАРМІЦЕЛЯ

**Артыкул 35. Члены сям'і, якія маюць права на пенсію**

Права на пенсію з выпадку страты карміцеля маюць непрацаздольныя члены сям'і памёршага карміцеля, якія знаходзіліся на яго ўтрыманні (артыкул 36). Пры гэтым дзецям, а таксама асобам, указаным у пункце «в» гэтага артыкула, пенсіі назначаюцца незалежна ад таго, ці былі яны на ўтрыманні карміцеля.

Бацькі і муж (жонка) памёршага, якія не былі на яго ўтрыманні, таксама маюць права на пенсію, калі ў далейшым страцілі крыніцу сродкаў да існавання.

Непрацаздольнымі членамі сям'і лічацца:

а) дзеці (у тым ліку ўсыноўленыя, пасынкі і падчарыцы), браты, сёстры і ўнукі, якія не дасягнулі 18 гадоў і старэйшыя за гэты ўзрост, калі яны сталі інвалідамі да дасягнення 18 гадоў, пры гэтым браты, сёстры і ўнукі — пры ўмове, калі яны не маюць працаздольных бацькоў, пасынак і падчарыца — калі яны не атрымлівалі аліментаў ад бацькоў;

б) бацька, маці (усынавіцелі), муж і жонка, калі яны дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў) або з'яўляюцца інвалідамі;

в) адзін з бацькоў або муж (жонка) ці дзед, баба, брат або сястра незалежна ад узросту і працаздольнасці, калі ён (яна) заняты (занята) доглядам за дзецьмі, братамі, сёстрамі або ўнукамі памёршага карміцеля, не дасягнуўшымі 8 гадоў, і не працуе;

г) дзед і баба — пры адсутнасці асоб, якія па закону абавязаны іх утрымліваць;

д) айчым, мачаха, калі яны дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў) або з'яўляюцца інвалідамі,— пры ўмове, калі выхоўвалі або ўтрымлівалі памёршага пасынка або падчарыцу не менш 5 гадоў.

Навучэнцы агульнаадукацыйных школ, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, навучэнцы і студэнты дзённых аддзяленняў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў маюць права на пенсію з выпадку страты карміцеля да заканчэння ўказаных навучальных устаноў, але не больш чым да дасягнення імі 23-гадовага ўзросту.

Усе правілы гэтага Закона, якія датычацца сем'яў памёршых, адпаведна распаўсюджваюцца і на сем'і адсутных без вестак, калі адсутнасць без вестак карміцеля засведчана ва ўстаноўленым парадку.

**Артыкул 36. Члены сям'і, якія лічацца ўтрыманцамі**

Члены сям'і памёршага лічацца быўшымі на яго ўтрыманні, калі яны знаходзіліся на яго поўным утрыманні або атрымлівалі ад яго дапамогу, якая была для іх пастаяннай і асноўнай крыніцай сродкаў да існавання.

Члены сям'і памёршага, для якіх яго дапамога была пастаяннай і асноўнай крыніцай сродкаў да існавання, але якія самі атрымлівалі якую-небудзь пенсію, маюць права перайсці на новую пенсію.

**Артыкул 37. Стаж работы карміцеля, які дае права на пенсію**

Сям'і карміцеля, памёршага з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, а таксама сям'і памёршага пенсіянера пенсія назначаецца незалежна ад стажу работы карміцеля.

Пенсія з выпадку страты карміцеля, памёршага з прычыны агульнага захворвання або калецтва, не звязанага з работай, назначаецца, калі карміцель да дня смерці меў стаж, які быў бы неабходны яму для назначэння пенсіі па інваліднасці (артыкул 30).

Сем'ям грамадзян Рэспублікі Беларусь — перасяленцаў з іншых дзяржаў, калі карміцель не працаваў у Рэспубліцы Беларусь, пенсіі назначаюцца:

а) атрымліваўшым у іншых дзяржавах пенсію з выпадку страты карміцеля — незалежна ад стажу работы карміцеля;

б) не атрымліваўшым пенсіі — пры ўмове, калі карміцель па ўзросту да дня спынення работы меў адпаведны стаж (артыкул 30), а ў выпадку смерці яго з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання — незалежна ад стажу работы карміцеля.

**Артыкул 38. Размеры пенсій**

Пенсіі з выпадку страты карміцеля назначаюцца на кожнага непрацаздольнага члена сям'і ў размеры 30 працэнтаў сярэднямесячнага заработку карміцеля (артыкул 56), але не менш 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

На дзяцей, якія страцілі абодвух бацькоў (круглых сірот), або дзяцей памёршай адзінокай маці пенсія на кожнае дзіця не можа быць менш двухкратнага мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 39. Захаванне пенсіі пры ўступленні ў новы шлюб**

Пенсія, назначаная з выпадку смерці мужа, захоўваецца і пры ўступленні пенсіянера ў новы шлюб.

**Артыкул 40. Права на пенсію ўсыноўленых**

Непаўналетнія, якія маюць права на пенсію з выпадку страты карміцеля, захоўваюць гэта права таксама і пры іх усынаўленні.

**Артыкул 41. Пенсіі пры няпоўным стажы работы**

Членам сям'і, якая страціла карміцеля, памёршага з прычыны агульнага захворвання і не меўшага стажу, дастатковага для назначэння поўнай пенсіі па інваліднасці (артыкул 30), назначаецца пенсія пры няпоўным стажы ў размеры, вылічаным прапарцыянальна наяўнаму стажу работы карміцеля.

Сем'ям памёршых пенсіянераў, атрымліваўшых пенсію пры няпоўным стажы, пенсія назначаецца прапарцыянальна стажу работы, зыходзячы з якога была назначана пенсія памёршаму карміцелю.

Пенсія на кожнага непрацаздольнага члена сям'і не можа быць менш 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту. Пры гэтым пенсія, якая назначаецца на дзіця — круглага сірату або дзіця памёршай адзінокай маці, не можа быць менш размеру, прадугледжанага часткай другой артыкула 38 гэтага Закона, а на маці-гераіню — не менш 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 42. Права на зварот за назначэннем пенсіі без абмежавання тэрмінам**

Сям'я, якая мае права на пенсію з выпадку страты карміцеля, можа звяртацца за назначэннем пенсіі ў любы час пасля смерці або ўстанаўлення адсутнасці без вестак карміцеля без абмежавання якім-небудзь тэрмінам.

Пенсіі з выпадку страты карміцеля назначаюцца:

а) сем'ям асоб, указаных у частцы першай артыкула 5 гэтага закона, — незалежна ад таго, калі памёр карміцель: у перыяд работы (вучобы) або пасля спынення работы (вучобы);

б) сем'ям пенсіянераў — калі карміцель памёр у перыяд атрымання пенсіі або не пазней 5 гадоў пасля спынення выплаты пенсіі.

**Артыкул 43. Перыяд, на які назначаецца пенсія**

Пенсія з выпадку страты карміцеля ўстанаўліваецца на ўвесь перыяд, на працягу якога член сям'і памёршага лічыцца непрацаздольным згодна з артыкулам 35 гэтага Закона.

**Артыкул 44. Назначэнне пенсіі на кожнага непрацаздольнага члена сям'і**

Пенсія з прычыны страты карміцеля назначаецца на кожнага непрацаздольнага члена сям'і, які мае права на пенсію (артыкул 35).

Па жаданню членаў сям'і ім можа быць назначана адна агульная пенсія.

**Артыкул 45. Парадак і тэрміны ўстанаўлення інваліднасці членам сям'і**

На членаў сям'і, якія з'яўляюцца інвалідамі, адпаведна распаўсюджваюцца правілы, выкладзеныя ў артыкулах 28, 34, пунктах «а» і «б» артыкула 81, частках першай і другой артыкула 89 гэтага Закона.

## РАЗДЗЕЛ V. ПЕНСІІ ЗА ВЫСЛУГУ ГАДОЎ

**Артыкул 46. Падставы для пенсіённага забеспячэння за выслугу гадоў**

Пенсіі за выслугу гадоў устанаўліваюцца асобным катэгорыям грамадзян (артыкулы 47—49), занятых на работах, выкананне якіх вядзе да страты прафесіянальнай працаздольнасці або прыгоднасці, да наступлення ўзросту, які дае права на пенсію па ўзросту.

**Артыкул 47. Умовы назначэння пенсій асобным катэгорыям работнікаў авіяцыі і лётна-выпрабавальнага складу**

Права на пенсію за выслугу гадоў маюць наступныя катэгорыі рабочых і служачых авіяцыі, а таксама лётна-выпрабавальнага складу незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, у якіх яны заняты:

а) работнікі лётнага і лётна-выпрабавальнага складу пры выслузе гадоў на гэтых пасадах не менш 25 гадоў у мужчын і не менш 20 гадоў у жанчын.

Указаныя работнікі, звольненыя з лётнай работы па стану здароўя (хваробы), пры наяўнасці выслугі гадоў у мужчын не менш 20 гадоў і у жанчын не менш 15 гадоў маюць права на пенсію прапарцыянальна адпрацаванаму часу. Далейшая работа ў службах кіравання паветраным рухам і інжынерна-авіяцыйнай на пасадах, якія даюць права на пенсію за выслугу гадоў (пункты «б» і «в» гэтага артыкула), залічваецца ў каляндарным парадку для назначэння поўнай пенсіі за выслугу гадоў.

Пералік пасад работнікаў лётнага і лётна-выпрабавальнага складу, парадак вылічэння тэрмінаў выслугі гадоў для назначэння ім пенсій, а таксама парадак назначэння і выплаты гэтых пенсій зацвярджаюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

б) работнікі, якія ажыццяўляюць кіраванне паветраным рухам і маюць пасведчанне дыспетчара:

мужчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 12 гадоў 6 месяцаў работы па непасрэднаму кіраванню палётамі паветраных суднаў;

жанчыны — па дасягненні 45 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 10 гадоў работы па непасрэднаму кіраванню палётамі паветраных суднаў.

У выслугу гадоў работнікам, якія ажыццяўляюць кіраванне паветраным рухам, залічваецца таксама работа, указаная ў пункце «а» гэтага артыкула;

в) інжынерна-тэхнічны склад — па пераліку пасад і работ, які зацвярджаецца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 20 гадоў ва ўказаных пасадах;

жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 15 гадоў ва ўказаных пасадах.

У выслугу гадоў работнікам інжынерна-тэхнічнага складу залічваецца таксама работа, указаная ў пунктах «а» і «б» гэтага артыкула;

г) бортправаднікі:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 15 гадоў бортправаднікам;

жанчыны — па дасягненні 45 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 10 гадоў бортправадніцай.

**Артыкул 48. Умовы для назначэння пенсій асобным катэгорыям медыцынскіх і педагагічных работнікаў**

Права на пенсію за выслугу гадоў маюць асобныя катэгорыі медыцынскіх і педагагічных работнікаў:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры наяўнасці спецыяльнага стажу работы не менш 30 гадоў;

жанчыны —па дасягненні 50 гадоў і пры наяўнасці спецыяльнага стажу работы не менш 25 гадоў.

Пералік устаноў, арганізацый і пасад, праца ў якіх дае права на пенсію за выслугу гадоў у адпаведнасці з гэтым артыкулам, зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 49. Умовы для назначэння пенсій артыстам**

Права на пенсію за выслугу гадоў пры стажы творчай дзейнасці ад 20 да 30 гадоў маюць асобныя катэгорыі артыстаў тэатраў і іншых тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў і калектываў — па пераліку, які зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 50. Размеры пенсій**

Пенсіі за выслугу гадоў назначаюцца ў размерах, устаноўленых артыкуламі 23, 25 і 68 гэтага Закона для пенсій па ўзросту.

Пенсіі вылічваюцца з сярэднямесячнага заработку, які вызначаецца ў адпаведнасці з артыкуламі 56—58 гэтага Закона.

## РАЗДЗЕЛ VI. ВЫЛІЧЭННЕ СТАЖУ РАБОТЫ ДЛЯ НАЗНАЧЭННЯ ПРАЦОЎНЫХ ПЕНСІЙ

**Артыкул 51. Віды дзейнасці, якія залічваюцца ў стаж работы**

У працоўны стаж залічваецца работа, у перыяд якой работнік падлягаў дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню або выплачваў страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

Пры вылічэнні стажу работы ў калгасе за перыяд пасля 1965 года, калі член калгаса не выконваў без уважлівых прычын устаноўленага мінімуму працоўнага ўдзелу ў грамадскай гаспадарцы, улічваецца час работы па фактычнай працягласці.

У стаж работы залічваецца таксама:

а) ваенная служба і знаходжанне ў партызанскіх атрадах і злучэннях, служба ў органах дзяржаўнай бяспекі і ў органах унутраных спраў;

б) служба ў ваенізаванай ахове, у органах спецыяльнай сувязі і ў горнавыратавальных часцях незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці і наяўнасці спецыяльнага або воінскага звання;

в) дзённая форма навучання ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, у вучылішчах, школах і на курсах па падрыхтоўцы кадраў, павышэнню кваліфікацыі і перакваліфікацыі, у аспірантуры, клінічнай ардынатуры, дактарантуры;

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ ПЕНСІЁННЫМ ЗАБЕСПЯЧЭННІ

(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.).

г) часовая непрацаздольнасць, якая пачалася ў перыяд работы, і час знаходжання на інваліднасці I і II груп з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, атрыманых работнікам пры выкананні ім працоўных абавязкаў і адбыўшыхся па віне прадпрыемстваў і арганізацый;

д) час догляду за інвалідам I групы або дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама за састарэлым, які дасягнуў 80-гадовага ўзросту;

е) час догляду за дзіцем ва ўзросце да 16 гадоў, заражаным вірусам імунадэфіцыту або хворым СНІДам;

ж) час догляду непрацуючай маці (у выглядзе выключэння —бацькі) за малалетнімі дзецьмі, але не даўжэй чым да дасягнення кожным дзіцем узросту 3 гадоў, у межах 9 гадоў увогуле;

з) час утрымання пад вартай, час адбывання пакарання ў месцах пазбаўлення волі і ссылкі грамадзян, неабгрунтавана прыцягнутых да крымінальнай адказнасці і ў далейшым рэабілітаваных;

і) час знаходжання на спецпасяленні грамадзян, якія дасягнулі 12-гадовага ўзросту, неабгрунтаавана высланых у перыяд рэпрэсій за межы рэспублікі ў адміністрацыйным парадку і пасля рэабілітаваных;

к) знаходжанне ў месцах пазбаўлення волі звыш тэрміну, назначанага пры пераглядзе справы;

л) час знаходжання на акупіраванай тэрыторыі СССР і іншых дзяржаў у перыяд Вялікай Айчыннай вайны грамадзян, якія дасягнулі да дня акупацыі або ў яе перыяд 16 гадоў, калі яны не ўчынілі ў гэты перыяд злачынстваў супраць Радзімы;

м) час пражывання грамадзян у горадзе Ленінградзе ў перыяд яго блакады ў гады Вялікай Айчыннай вайны з 8 верасня 1941 года па 27 студзеня 1944 года;

н) час знаходжання вязняў, у тым ліку дзяцей, у фашысцкіх канцлагерах (гета і іншых месцах прымусовага ўтрымання ў перыяд вайны), а таксама перыяд знаходжання асоб, насільна вывезеных з часова акупіраванай тэрыторыі ў час Вялікай Айчыннай вайны, на тэрыторыі дзяржаў, якія знаходзіліся ў стане вайны з СССР, калі яны не ўчынілі ў гэты перыяд злачынстваў супраць Радзімы;

о) перыяд пражывання жонак асоб афіцэрскага складу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых звыштэрміновай службы з мужамі ў мясцовасцях, дзе адсутнічала магчымасць іх працаўладкавання, але не больш 10 гадоў увогуле;

п) перыяд пражывання за мяжой жонак (мужоў) работнікаў дзяржаўных устаноў Беларусі, якія знаходзяцца за мяжой, і міжнародных арганізацый, але не больш 10 гадоў увогуле.

Для павелічэння размеру пенсіі па ўзросту за кожны год работы (артыкул 23) разам з работай улічваюцца таксама перыяды, прадугледжаныя пунктамі «а» — «н» гэтага артыкула і артыкуламі 52 і 53 гэтага Закона. Пры гэтым работа пасля назначэння пенсіі па ўзросту залічваецца ў стаж, калі пенсіянер не атрымліваў пенсіі за гэты перыяд (за выключэннем пераразліку пенсіі, прадугледжанага артыкулам 66 гэтага Закона).

Пры вылічэнні стажу падземнай работы, якая дае права на пенсію ў сувязі з асаблівымі ўмовамі працы (артыкулы 12 і 13), час знаходжання на інваліднасці з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, атрыманых на гэтай рабоце, уключаецца ва ўказаны стаж.

**Артыкул 52. Ільготы па вылічэнню стажу**

На льготных умовах у стаж для назначэння пенсіі залічваюцца:

а) ваенная служба ў складзе дзеючай арміі ў перыяд баявых дзеянняў, у тым ліку пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, а таксама знаходжанне ў партызанскіх атрадах і злучэннях залічваюцца ў стаж на льготных умовах ў парадку, устаноўленым для вылічэння тэрмінаў гэтай службы пры назначэнні пенсій за выслугу гадоў ваеннаслужачым;

б) работа ў горадзе Ленінградзе ў перыяд яго блакады ў гады Вялікай Айчыннай вайны з 8 верасня 1941 года па 27 студзеня 1944 года—у трайным размеры;

в) работа асоб з ліку вольнанаёмнага складу ў воінскіх часцях дзеючай арміі ў перыяд баявых дзеянняў— у двайным размеры;

г) работа і служба, акрамя работы, прадугледжанай пунктам «б» гэтага артыкула, і ваеннай службы, прадугледжанай пунктам «а» гэтага артыкула, у гады Вялікай Айчыннай вайны — у двайным памеры;

д) работа ў лепразорыях, процічумных і інфекцыйных установах па лячэнню асоб, заражаных вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворых СНІДам, — у двайным памеры.

Перыяд, указаны ў пункце «з» артыкула 51 гэтага Закона, залічваецца ў працоўны стаж у трайным размеры, а перыяды, указаныя ў пунктах «і», «м» і «н» таго ж артыкула, — у двайным размеры.

**Артыкул 53. Парадак уключэння ў стаж асобных відаў работ**

Работа на водным транспарце на працягу поўнага навігацыйнага перыяду залічваецца за год работы.

Работа на працягу поўнага сезону на прадпрыемствах і ў арганізацыях сезонных галін прамысловасці незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці прадпрыемстваў і арганізацый па спісу, які зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, залічваецца ў стаж за год работы.

Астатнія сезонныя работы залічваюцца ў стаж работы па іх фактычнай працягласці.

**Артыкул 54. Парадак пацвярджэння стажу работы**

Стаж работы пацвярджаецца працоўнай кніжкай, а пры яе адсутнасці — іншымі дакументамі, якія змяшчаюць звесткі аб перыядах работы, або даведкамі аб выплаце страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

Парадак пацвярджэння стажу работы пры адсутнасці працоўнаай кніжкі або адпаведных запісаў у ёй устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 55. Умовы ўключэння ў стаж замежным грамадзянам часу работы за мяжой**

Замежным грамадзянам і іх сем'ям у тых выпадках, калі для назначэння пенсіі патрабуецца пэўны стаж, пенсіі назначаюцца пры ўмове, што дзве трэці неабходнага стажу прыпадае на работу ў Рэспубліцы Беларусь, калі пагадненнямі (артыкул 1) не прадугледжана іншае.

## РАЗДЗЕЛ VII. ВЫЛІЧЭННЕ ПЕНСІЙ

**Артыкул 56. Вылічэнне пенсій у працэнтах да сярэднямесячнага заработку**

Пенсіі вылічваюцца па ўстаноўленых нормах у працэнтах да сярэднямесячнага заработку (што вызначаецца ў адпаведнасці з артыкуламі 57, 58 і 60 гэтага Закона), які грамадзяне атрымлівалі перад зваротам за пенсіяй.

Пры гэтым для разліку пенсіі прымаецца заработак у суме не звыш дзесяцікратнага размеру мінімальнай заработнай платы. Заработак у частцы, якая не перавышае чатырохкратнага размеру мінімальнай заработнай платы, улічваецца пры назначэнні пенсіі поўнасцю. Кожная наступная частка заработку ўлічваецца ў наступным размеры: у межах пятага мінімуму заработнай платы — 85 працэнтаў, шостага — 70 працэнтаў, сёмага — 55 працэнтаў, восьмага — 40 працэнтаў, дзевятага— 25 працэнтаў, дзесятага — 15 працэнтаў. Атрыманы такім чынам сярэднямесячны заработак лічыцца заработкам, з якога вылічана пенсія.

**Артыкул 57. Агульны парадак вызначэння сярэднямесячнага заработку**

Асобам, указаным у артыкуле 5 гэтага Закона, пенсія вылічваецца з сярэднямесячнага фактычнага заработку за любыя 5 гадоў запар (па выбару асобы, якая звярнулася за пенсіяй) з апошніх 15 гадоў работы (выплаты страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь) незалежна ад наяўных перапынкаў.

Сярэднямесячны заработак за 5 гадоў вызначаецца шляхам дзялення агульнай сумы заработку за 60 каляндарных месяцаў работы запар (у межах апошніх 15 гадоў работы) на шэсцьдзесят. Пры гэтым па жаданню асобы, якая звярнулася за пенсіяй, месяцы з няпоўнай колькасцю рабочых дзён у сувязі з паступленнем на работу або са звальненнем улічваюцца як поўныя каляндарныя месяцы работы.

У тых выпадках, калі асоба, якая звярнулася за пенсіяй, прапрацавала менш 5 гадоў, сярэднямесячны заработак вызначаецца шляхам дзялення агульнай сумы заработку за каляндарныя месяцы на колькасць гэтых месяцаў.

Калі работнік прапрацаваў менш аднаго каляндарнага месяца, то заработак за ўвесь прапрацаваны час дзеліцца на колькасць прапрацаваных дзён і атрыманая сума памнажаецца на колькасць рабочых дзён у месяц, вылічаную ў сярэднім за год.

Пры назначэнні пенсій работнікам, занятым на сезонных работах, сярэднямесячны фактычны заработак вызначаецца шляхам дзялення заработку за 5 поўных сезонаў на шэсцьдзесят.

Па жаданню асобы, якая звярнулася за пенсіяй, не ўключаецца ў 15-гадовы перыяд час работы, на працягу якога яна з'яўлялася інвалідам або атрымлівала кампенсацыю ўрону, прычыненага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, ажыццяўляла догляд за інвалідам I групы або дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама за састарэлым, дасягнуўшым 80-гадовага ўзросту, або знаходзілася ў водпуску па догляду за малалетнімі дзецьмі.

Даведка аб размеры сярэднямесячнага заработку выдаецца прадпрыемствамі (установамі, арганізацыямі) ва ўстаноўленым парадку.

**Артыкул 58. Віды аплаты працы, якія ўлічваюцца пры вылічэнні пенсіі**

У заработак для вылічэння пенсіі ўключаюцца ўсе віды аплаты працы, у тым ліку па сумяшчальніцтву, на якія па дзеючых правілах налічваюцца страхавыя ўзносы.

Прэміі і іншыя віды выплат уключаюцца ў заработак за той месяц, у якім яны атрыманы.

У заработак для вылічэння пенсіі ўключаецца за адпаведныя перыяды дапамога па часовай непрацаздольнасці або сярэдні заработак, які захоўваўся за работнікам.

У заработак для вылічэння пенсіі асобам, якія не падлягаюць дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню (пункт «б» артыкула 51), уключаюцца ўсе віды грашовага забеспячэння, аналагічныя тым відам аплаты працы, на якія налічваюцца страхавыя ўзносы.

У заработак для вылічэння пенсіі членам калгасаў уключаецца аплата ва ўсіх яе відах за работу ў грамадскай гаспадарцы калгаса, а таксама аплата за работу па іншым месцы работы, калі на гэту аплату налічваліся страхавыя ўзносы.

Натуральная частка заработку, на вартасць якой налічваюцца страхавыя ўзносы, улічваецца па дзяржаўных рознічных цэнах таго перыяду, калі праводзілася аплата працы.

**Артыкул 59. Вылічэнне пенсій пры няпоўным стажы работы**

Пенсіі пры няпоўным стажы работы (артыкулы 24, 32, 41) назначаюцца ў размеры, вылічаным прапарцыянальна наяўнаму стажу.

Вылічэнне пенсіі праводзіцца наступным чынам: спачатку вызначаецца адпаведная поўная пенсія, гэта пенсія дзеліцца на колькасць месяцаў патрабуемага поўнага стажу работы, атрыманая сума памнажаецца на колькасць месяцаў наяўнага фактычнага стажу работы (у гэтым стажы перыяд звыш 15 дзён акругляецца да поўнага месяца, а перыяд да 15 дзён уключна не ўлічваецца).

Калі пенсія пры поўным стажы належала б у мінімальным размеры, устаноўленым гэтым Законам (артыкулы 23, 31, 38), то пенсія пры няпоўным стажы назначаецца прапарцыянальна наяўнаму стажу зыходзячы з мінімальнага размеру пенсіі, але ва ўсіх выпадках не менш пенсіі, устаноўленай для адпаведнай катэгорыі непрацаздольных (артыкулы 24, 32, 41).

**Артыкул 60. Вылічэнне пенсій асобным катэгорыям грамадзян**

Навучэнцам, аспірантам і клінічным ардынатарам пры вылічэнні пенсіі па іх жаданню за перыяд вучобы замест заработку можа ўлічвацца стыпендыя.

Асобам, якія выплачваюць страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь (якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, працуюць у асобных грамадзян па працоўных дагаворах і іншых), пенсіі вылічваюцца з сумы, прынятай для вызначэння ўзносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, у адпаведнасці з артыкуламі 56—58 гэтага Закона.

Членам творчых саюзаў і іншым творчым работнікам, якія не з'яўляюцца членамі творчых саюзаў, пенсіі вылічваюцца з аўтарскага ганарару, які разлічваецца па дзяржаўных стаўках, за любыя 5 гадоў запар з апошніх 15 гадоў творчай дзейнасці перад зваротам за пенсіяй.

Асобам, указаным у частцы трэцяй гэтага артыкула, калі яны адначасова працуюць на прадпрыемствах або ў арганізацыях, для вылічэння пенсіі ўлічваюцца за адпаведны перыяд аўтарскі ганарар і заработак.

**Артыкул 61. Вылічэнне сярэднямесячнага заработку за перыяд работы за мяжой**

Пры вылічэнні сярэднямесячнага заработку асоб, якія працавалі за межамі Рэспублікі Беларусь, улічваецца заработная плата, якую яны атрымлівалі да работы за мяжой (артыкулы 56—58, 60), або па іх выбару заработак, які вызначаецца ў адпаведнасці з артыкулам 62 гэтага Закона.

**Артыкул 62. Вылічэнне пенсій грамадзянам Рэспублікі Беларусь — перасяленцам з іншых дзяржаў**

Пенсіі грамадзянам Рэспублікі Беларусь — перасяленцам з іншых дзяржаў, якія не працавалі ў Рэспубліцы Беларусь, вылічваюцца з разліку сярэдняга заработку работнікаў адпаведных прафесій і кваліфікацый у Рэспубліцы Беларусь да часу назначэння пенсіі.

**Артыкул 63. Вылічэнне пенсій круглым сіротам**

Дзецям, якія страцілі абодвух бацькоў (круглым сіротам), пенсіі вылічваюцца з агульнай сумы заработку абодвух бацькоў.

**Артыкул 64. Вылічэнне пенсій сем'ям пенсіянераў**

Сем'ям пенсіянераў пенсіі з выпадку страты карміцеля вылічваюцца з таго ж заработку, з якога вылічвалася пенсія карміцеля.

**Артыкул 65. Вылічэнне пенсій пры пераводзе з адной пенсіі на іншую**

Пры пераводзе з адной пенсіі на іншую сярэднямесячны заработак вызначаецца на агульных падставах, устаноўленых гэтым Законам. Пенсія па новай падставе можа таксама вылічвацца (па жаданню пенсіянера) з таго заработку, з якога вызначалася раней назначаная пенсія.

**Артыкул 66. Пераразлік пенсій па ўзросту, назначаных на льготных падставах**

Грамадзянам, якім назначаны пенсіі па ўзросту на льготных падставах (артыкулы 3, 12, 13, 15, 17—22), па дасягненні ўзросту, прадугледжанага артыкулам 11 гэтага Закона, праводзіцца пераразлік пенсіі з улікам стажу работы пасля назначэння пенсіі.

**Артыкул 67. Пераразлік пенсій пры няпоўным стажы работы**

Калі пенсіянер, якому назначана пенсія пры няпоўным стажы па ўзросту або па інваліднасці (артыкулы 24, 32), а таксама прапарцыянальна адпрацаванаму часу за выслугу гадоў (пункт «а» артыкула 47), прапрацаваў пасля назначэння пенсіі не менш 2 гадоў, то па яго заяве праводзіцца пераразлік пенсіі зыходзячы са стажу, які ёсць да часу пераразліку. Кожны наступны пераразлік пенсіі праводзіцца не раней чым праз 2 гады работы пасля папярэдняга пераразліку.

Калі пенсіянер, працягваючы працаваць, набыў стаж, дастатковы для назначэння поўнай пенсіі, то па заяве пенсіянера праводзіцца адпаведны пераразлік пенсіі незалежна ад таго, колькі часу прайшло пасля яе назначэння. Пры гэтым поўная пенсія па інваліднасці ўстанаўліваецца пры ўмове, калі пенсіянер мае стаж, дастатковы для назначэння поўнай пенсіі адпаведна ўзросту пенсіянера да часу наступлення інваліднасці (артыкул 30).

Пераразлік пенсіі праводзіцца з заработку, з якога пенсія была першапачаткова назначана, з прымяненнем артыкула 70 гэтага Закона.

**Артыкул 68. Павышэнне пенсій**

Пенсіі, назначаныя ў адпаведнасці з гэтым Законам, павышаюцца:

а) інвалідам вайны I і II груп — на 150 працэнтаў, інвалідам III групы — на 75 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

удзельнікам вайны з ліку ваеннаслужачых, якія праходзілі службу ў складзе дзеючай арміі, партызанскіх атрадах і злучэннях, ваеннаслужачым, прымаўшым удзел у баявых дзеяннях пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, — на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам з ліку вольнанаёмнага складу, якія праходзілі службу або працавалі ў складзе дзеючай арміі, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам, якія працавалі ў перыяд блакады горада Ленінграда на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях горада, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

вязням фашысцкіх канцлагераў (гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання ў перыяд вайны), калі яны не ўчынілі ў гэты перыяд злачынстваў супраць Радзімы, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

інвалідам з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (або з вынікамі ваенных дзеянняў), — на 15 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам, узнагароджаным ордэнамі і медалямі за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ў гады Вялікай Айчыннай вайны, — на 15 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

б) бацькам, дзецям — інвалідам з дзяцінства і жонкам (не ўступіўшым у новы шлюб) ваеннаслужачых, смерць якіх звязана з выкананнем абавязкаў ваеннай службы, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

в) грамадзянам, неабгрунтавана рэпрэсіраваным па палітычных матывах у перыяд рэпрэсій 20—80-х гадоў і ў далейшым рэабілітаваным, — на 25 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на павышэнне пенсіі па розных падставах, прадугледжаных пунктам «а» гэтага артыкула, налічваецца адно з указаных у ім павышэнняў.

**Артыкул. 69. Пераразлік пенсій у сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы**

Мінімальныя размеры пенсій (артыкулы 23, 31, 38), а таксама гранічныя размеры заработку, які ўлічваецца для вылічэння пенсій (артыкул 56), павышаюцца ў сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы. Пры гэтым павышэнне пенсій праводзіцца з месяца, што ідзе за тым, з якога праведзена павелічэнне мінімальнай заработнай платы.

**Артыкул 70. Павышэнне пенсіі ў сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы**

У сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы ў рэспубліцы штоквартальна праводзяцца індэксацыя заработку, з якога вылічана пенсія, і адпаведны пераразлік пенсіі.

Для індэксацыі заработку вызначаецца індывідуальны каэфіцыент, што атрымліваецца шляхам суадносін заработку, з якога вылічана пенсія, і велічыні сярэдняй заработнай платы ў рэспубліцы ў перыяд назначэння пенсіі. Па меры росту заработнай платы ў рэспубліцы яе сярэднямесячная велічыня, якая прымяняецца ў бягучым квартале, памнажаецца на індывідуальны каэфіцыент і з атрыманага такім чынам заработку вылічваецца пенсія.

Парадак пераразліку пенсій у адпаведнасці з гэтым артыкулам зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 71. Вызначэнне сумы заработку і размеру пенсіі**

Пры вылічэнні сумы сярэднямесячнага заработку і ўстанаўленні размеру пенсіі дробная частка грашовай адзінкі меншая за палавіну не ўлічваецца, а большая за палавіну акругляецца ў большы бок.

## РАЗДЗЕЛ VIII. САЦЫЯЛЬНЫЯ ПЕНСІІ

**Артыкул 72. Грамадзяне, якія маюць права на пенсію**

Сацыяльныя пенсіі назначаюцца грамадзянам, якія не атрымліваюць працоўную пенсію:

інвалідам, у тым ліку інвалідам з дзяцінства;

асобам, якія дасягнулі ўзросту: мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў;

дзецям — у выпадку страты карміцеля (пункт «а» артыкула 35);

дзецям-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў.

Пералік медыцынскіх паказанняў, якія даюць права на атрыманне сацыяльнай пенсіі на дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 16 гадоў, вызначаецца ў парадку, што ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 73. Размеры пенсій**

Сацыяльныя пенсіі назначаюцца ў наступных размерах:

а) інвалідам I групы, інвалідам з дзяцінства I і II груп і дзецям-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту (артыкул 23);

б) інвалідам II групы (акрамя інвалідаў з дзяцінства); асобам, якія дасягнулі ўзросту: мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў; дзецям у выпадку страты карміцеля (пункт «а» артыкула 35) на кожнае дзіця — 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

в) інвалідам III групы — 30 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 74. Надбаўка да пенсіі**

Да сацыяльнай пенсіі інвалідам I групы ўстанаўліваецца надбаўка на догляд за імі ў размеры 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

## РАЗДЗЕЛ IX. НАЗНАЧЭННЕ ПЕНСІЙ

**Артыкул 75. Парадак звароту за назначэннем пенсіі**

Заява аб назначэнні пенсіі рабочым, служачым і членам іх сем'яў (у выпадку страты карміцеля) падаецца праз адміністрацыю прадпрыемства, установы, арганізацыі па месцы апошняй работы.

Заява аб назначэнні пенсіі членам калгасаў, кааператываў і іх сем'ям падаецца праз праўленне калгаса (кааператыва).

Адміністрацыя (праўленне) у 10-дзённы тэрмін з дня паступлення заявы афармляе неабходныя дакументы аб стажы і заработку і разам з пададзенай заявай і сваім прадстаўленнем накіроўвае іх у раённы (гарадскі) аддзел сацыяльнага забеспячэння па месцы жыхарства заяўніка або ў парадку, які вызначаецца рэспубліканскім органам сацыяльнага забеспячэння — у раённы (гарадскі) аддзел сацыяльнага забеспячэння па месцы знаходжання прадпрыемства або арганізацыі. Калі работніку, які звярнуўся за назначэннем пенсіі, адмоўлена ў прадстаўленні да назначэння пенсіі, яму паведамляецца аб гэтым у пісьмовай форме з указаннем прычын адмовы.

У тых выпадках, калі асоба, якая звярнулася за пенсіяй, не згодна з рашэннем адміністрацыі (праўлення) аб адмове ў прадстаўленні яе да назначэння пенсіі, яна можа падаць заяву аб назначэнні пенсіі непасрэдна ў раённы (гарадскі) аддзел сацыяльнага забеспячэння.

Заява аб назначэнні пенсіі іншым грамадзянам і членам іх сем'яў падаецца непасрэдна ў раённы (гарадскі) аддзел сацыяльнага забеспячэння па месцы жыхарства заяўніка.

Аддзелы сацыяльнага забеспячэння абавязаны даваць растлумачэнні і даведкі па пытаннях назначэння пенсій, а таксама садзейнічаць заяўніку ў атрыманні неабходных дакументаў.

Аддзелы сацыяльнага забеспячэння маюць права патрабаваць адпаведныя дакументы ад прадпрыемстваў, арганізацый і асобных людзей, а таксама правяраць у неабходных выпадках абгрунтаванасць іх выдачы, запытваць у органах дзяржаўнай экспертызы ўмоў працы заключэнні аб абгрунтаванасці выдачы дакументаў аб занятасці на работах з асаблівымі ўмовамі працы.

Патрабаванні органаў сацыяльнага забеспячэння аб выдачы адпаведных дакументаў і заключэнняў з'яўляюцца абавязковымі для выканання.

**Артыкул 76. Адказнасць прадпрыемстваў і арганізацый за своечасовасць і паўнату афармлення дакументаў і дакладнасць звестак, якія ў іх змяшчаюцца**

Прадпрыемствы і арганізацыі абавязаны своечасова афармляць дакументы аб стажы і заработку, неабходныя для назначэння пенсіі, і своечасова прадстаўляць іх у органы сацыяльнага забеспячэння.

Прадпрыемствы і арганізацыі нясуць матэрыяльную адказнасць перад пенсіянерам за ўрон, прычынены несвоечасовым і няпоўным афармленнем дакументаў, неабходных для назначэння і пераразліку пенсіі, а таксама прадстаўленнем дакументаў, якія змяшчаюць недакладныя звесткі, у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадках, калі праведзена пераплата пенсіі на падставе ўказаных у дакументах недакладных звестак, прадпрыемства, арганізацыя кампенсуюць фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь прычынены ўрон.

**Артыкул 77. Органы, якія назначаюць пенсіі**

Пенсіі назначаюцца кіраўніком раённага (гарадскога) аддзела сацыяльнага забеспячэння. Аднак ва ўсіх выпадках па патрабаванню асобы, якая звярнулася за пенсіяй, і іншых зацікаўленых асоб, прадпрыемстваў і арганізацый пытанне аб назначэнні пенсіі вырашаецца камісіяй па назначэнню пенсій, што ўтвараецца раённым (гарадскім) Саветам народных дэпутатаў. Камісія ўтвараецца ў складзе, які вызначаецца Саветам народных дэпутатаў. Разам з іншымі членамі ў склад камісіі ўключаецца кіраўнік раённага (гарадскога) аддзела сацыяльнага забеспячэння.

**Артыкул 78. Тэрміны разгляду дакументаў аб назначэнні пенсій**

Дакументы аб назначэнні пенсій разглядаюцца органамі, якія назначаюць пенсіі (артыкул 77), не пазней 10 дзён з дня іх паступлення.

Рашэнне аб адмове ў назначэнні пенсіі па матывах неадпаведнасці ўмовам, прадугледжаным гэтым Законам, ва ўсіх выпадках прымаецца толькі камісіяй па назначэнню пенсій. Аб даце пасяджэння камісіі папярэдне паведамляецца прадпрыемству, арганізацыі або заяўніку.

Аддзел сацыяльнага забеспячэння не пазней 5 дзён пасля вынясення адпаведнага рашэння выдае або пасылае прадпрыемству або заяўніку паведамленне аб адмове ў назначэнні пенсіі з указаннем прычын адмовы і парадку абскарджання і адначасова вяртае ўсе дакументы.

**Артыкул 79. Абскарджанне рашэнняў камісій па назначэнню пенсій**

Скарга на рашэнне камісіі па назначэнню пенсій можа быць пададзена ў раённы (гарадскі) Савет народных дэпутатаў або ў раённы (гарадскі) народны суд. Орган, які разглядае спрэчку, пры неабходнасці можа запатрабаваць заключэнне вышэйстаячага органа сацыяльнага забеспячэння або дзяржаўнай экспертызы ўмоў працы.

**Артыкул 80. Тэрміны назначэння пенсій**

Пенсіі назначаюцца з дня звароту за пенсіяй, акрамя наступных выпадкаў, калі пенсіі назначаюцца з больш ранняга тэрміну:

а) пенсіі па інваліднасці назначаюцца з дня ўстанаўлення інваліднасці, калі зварот за пенсіяй адбыўся не пазней 3 месяцаў з дня ўстанаўлення інваліднасці;

б) пенсіі з выпадку страты карміцеля назначаюцца з дня ўзнікнення права на пенсію, але не больш чым за 12 месяцаў перад зваротам за пенсіяй.

Днём звароту за пенсіяй лічыцца дзень прыёму заявы (прадстаўлення) аб назначэнні пенсіі з усімі неабходнымі дакументамі органамі сацыяльнага забеспячэння.

Калі заява (прадстаўленне) аб назначэнні пенсіі перасылаецца па пошце і пры гэтым прыкладаюцца ўсе неабходныя дакументы, то днём звароту за пенсіяй лічыцца дата, указаная на паштовым штэмпелі месца іх адпраўлення.

У тых выпадках, калі да заявы (прадстаўлення) прыкладзены не ўсе неабходныя дакументы, аддзел сацыяльнага забеспячэння паведамляе адміністрацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі або заяўніку, якія дакументы павінны быць прадстаўлены дадаткова. Калі яны будуць прадстаўлены не пазней аднаго месяца з дня атрымання паведамлення аб неабходнасці прадстаўлення дадатковых дакументаў, то днём звароту за пенсіяй лічыцца дзень прыёму заявы (прадстаўлення) аб назначэнні пенсіі ці дата, указаная на паштовым штэмпелі месца іх адпраўлення.

**Артыкул 81. Тэрміны пераразліку назначанай пенсіі**

Пры ўзнікненні права на павышэнне пенсіі або пры наступленні прадугледжаных гэтым Законам абставін, якія цягнуць памяншэнне пенсіі або спыненне выплаты пенсіі, пераразлік назначанай пенсіі або спыненне яе выплаты праводзіцца з першага чысла месяца, што ідзе за тым, у якім пенсіянер звярнуўся за пераразлікам пенсіі або насталі гэтыя абставіны, акрамя наступных выпадкаў:

а) пры змяненні групы інваліднасці пенсія ў новым размеры выплачваецца з дня змянення групы інваліднасці;

б) пры прызнанні паўторна агледжанага працаздольным пенсія выплачваецца да канца месяца, у якім ён прызнаны працаздольным, але не даўжэй чым да дня, па які ўстаноўлена інваліднасць.

**Артыкул 82. Перавод з адной пенсіі на іншую**

Перавод з адной пенсіі на іншую праводзіцца кіраўніком раённага (гарадскога) аддзела сацыяльнага забеспячэння з дня падачы адпаведнай заявы з усімі неабходнымі дакументамі (калі іх няма ў пенсіённай справе).

## РАЗДЗЕЛ X. ВЫПЛАТА ПЕНСІЙ

**Артыкул 83. Парадак выплаты пенсій**

Пенсіі выплачваюцца органамі сацыяльнага забеспячэння без уліку атрымліваемага заработку (даходу) па месцы фактычнага жыхарства пенсіянера.

Пенсіі за выслугу гадоў у перыяд работы, якая дае права на гэту пенсію, не выплачваюцца.

Дастаўка і перасылка пенсій ажыццяўляюцца за кошт сродкаў фонда сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 84. Выплата пенсіі асобам, якія пражываюць у дамах-інтэрнатах для састарэлых і інвалідаў**

Пенсіянерам, якія пражываюць у дамах-інтэрнатах (пансіянатах, тэрытарыяльных цэнтрах) для састарэлых і інвалідаў, выплачваецца 10 працэнтаў назначанай пенсіі, але не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц. У тых выпадках, калі размер іх пенсіі перавышае кошт утрымання ў гэтых дамах-інтэрнатах (пансіянатах, тэрытарыяльных цэнтрах), выплачваецца розніца паміж пенсіяй і коштам утрымання, але не менш 10 працэнтаў назначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц.

Інвалідам вайны і іншым удзельнікам вайны пенсіі выплачваюцца ў такім жа парадку, але не менш 25 працэнтаў назначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

Калі ў пенсіянера, які пражывае ў доме-інтэрнаце (пансіянаце, тэрытарыяльным цэнтры) для састарэлых і інвалідаў, ёсць дзеці (пункт «а» артыкула 35), то пенсія выплачваецца ў наступным парадку: на адно дзіця — 25 працэнтаў, на двух дзяцей — 33 працэнты, на трох або больш дзяцей — 50 працэнтаў назначанай пенсіі, самому пенсіянеру — частка пенсіі, якая засталася, за вылікам кошту ўтрымання ў доме-інтэрнаце (пансіянаце, тэрытарыяльным цэнтры), але не менш 10 працэнтаў (інвалідам вайны і іншым удзельнікам вайны — не менш 25 працэнтаў) назначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 85. Выплата пенсіі дзецям, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным утрыманні**

Дзецям, якія страцілі абодвух бацькоў (круглым сіротам), а таксама дзецям памёршай адзінокай маці за перыяд знаходжання на поўным дзяржаўным утрыманні выплачваецца 50 працэнтаў назначанай пенсіі. Пенсіі пералічваюцца ў ашчадны банк на асабовыя рахункі дзяцей.

Іншым дзецям, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным утрыманні, выплачваецца 25 працэнтаў назначанай пенсіі.

**Артыкул 86. Выплата пенсіі ў перыяд знаходжання на стацыянарным лячэнні**

За час знаходжання пенсіянера на стацыянарным лячэнні ў бальніцы, клініцы, шпіталі і іншых лячэбных установах, а таксама ў лепразорыі пенсія выплачваецца поўнасцю.

**Артыкул 87. Выплата пенсіі па даверанасці і парадак яе афармлення**

Пенсія можа выплачвацца па даверанасці. Даверанасць можа быць выдадзена на тэрмін не звыш аднаго года.

Даверанасць павінна быць засведчана ў натарыяльным парадку або арганізацыяй жыллёвай гаспадаркі па месцы жыхарства пенсіянера, або лячэбнай установай, у якой пенсіянер знаходзіцца на стацыянарным лячэнні.

**Артыкул 88. Прыпыненне выплаты пенсіі на час пазбаўлення волі**

У выпадку пазбаўлення пенсіянера волі выплата назначанай пенсіі прыпыняецца на час пазбаўлення волі.

**Артыкул 89. Умовы аднаўлення выплаты пенсіі пры перапынках у інваліднасці**

Калі інвалід не з'явіўся ў МРЭК на паўторны агляд у назначаны для гэтага тэрмін, то выплата пенсіі прыпыняецца, а ў выпадку прызнання яго зноў інвалідам — аднаўляецца з дня прыпынення, але не больш чым за адзін месяц.

Пры пропуску тэрміну паўторнага агляду па ўважлівай прычыне выплата пенсіі на падставе рашэння камісіі па назначэнню пенсій праводзіцца з дня прыпынення выплаты да дня паўторнага агляду, але не больш чым за 3 гады, калі МРЭК прызнае яго за гэты перыяд інвалідам. Пры гэтым калі пры паўторным аглядзе інвалід пераведзены ў іншую групу інваліднасці (больш высокую або больш нізкую), то пенсія за ўказаны час выплачваецца па ранейшай групе.

Калі выплата пенсіі інваліду, які страціў працаздольнасць у выніку агульнага захворвання, была спынена з прычыны аднаўлення працаздольнасці або калі ён не атрымліваў пенсію ў выніку няяўкі на паўторны агляд без уважлівых прычын, то ў выпадку наступнага прызнання яго інвалідам выплата раней назначанай пенсіі аднаўляецца з дня ўстанаўлення інваліднасці зноў пры ўмове, калі пасля спынення выплаты пенсіі прайшло не больш 5 гадоў. Калі прайшло больш 5 гадоў, пенсія назначаецца зноў на агульных падставах.

**Артыкул 90. Выплата пенсіі за мінулы час**

Налічаныя сумы пенсіі, не запатрабаваныя пенсіянерам своечасова, выплачваюцца за мінулы час не больш чым за 3 гады перад зваротам за атрыманнем пенсіі.

Сумы пенсіі, не атрыманыя своечасова па віне органа, які назначае або выплачвае пенсію, выплачваюцца за мінулы час без абмежавання якім-небудзь тэрмінам.

**Артыкул 91. Выплата недаатрыманай пенсіі ў сувязі са смерцю пенсіянера і выплата дапамогі на пахаванне**

Сумы пенсіі, якія належалі пенсіянеру і засталіся недаатрыманымі ў сувязі з яго смерцю, не ўключаюцца ў склад спадчыны і выплачваюцца тым членам яго сям'і, якія адносяцца да кола асоб, што забяспечваюцца пенсіяй з выпадку страты карміцеля (артыкулы 35, 36). Аднак бацькі, муж (жонка), дзеці, а таксама члены сям'і, якія пражывалі сумесна з пенсіянерам на дзень яго смерці, маюць права на атрыманне гэтых сум і ў тым выпадку, калі яны не ўваходзяць у кола забяспечваемых пенсіяй з выпадку страты карміцеля.

Пры звароце некалькіх членаў сям'і належная ім сума пенсіі дзеліцца паміж імі пароўну.

Указаныя сумы выплачваюцца з прымяненнем артыкула 90 гэтага Закона, калі зварот за імі адбыўся не пазней 6 месяцаў пасля смерці пенсіянера.

У выпадку смерці пенсіянера яго сям'і, або асобам, якія не з'яўляюцца членамі сям'і, але праводзілі пахаванне пенсіянера, выплачваецца дапамога на пахаванне ў размеры, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, але не менш пяцікратнага размеру мінімальнай заработнай платы.

**Артыкул 92. Выплата пенсій грамадзянам, якія выехалі за мяжу**

Пенсіі, назначаныя ў Рэспубліцы Беларусь да выезду на пастаяннае жыхарства за мяжу, выплачваюцца за 6 месяцаў наперад перад ад'ездам за мяжу. Пенсіі, назначаныя з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, выплачваюцца за ўвесь час знаходжання за мяжой.

Парадак пераводу пенсій, назначаных з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, у іншыя дзяржавы вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 93. Абавязак пенсіянераў і кіраўнікоў устаноў паведамляць аддзелам сацыяльнага забеспячэння аб змяненні ўмоў, якія ўплываюць на выплату пенсій.**

Пенсіянер абавязаны паведамляць органу, які выплачвае яму пенсію, аб абставінах, якія цягнуць змяненне размеру пенсіі або спыненне яе выплаты.

Пры паступленні асобы, якой назначана пенсія, на поўнае дзяржаўнае ўтрыманне кіраўнік адпаведнай установы абавязаны паведаміць аб гэтым у 5-дзённы тэрмін органу, які выплачвае пенсію.

У выпадку парушэння патрабаванняў гэтага артыкула пенсіянеры нясуць адказнасць у размеры фактычнага ўрону, а службовыя асобы — у парадку, які вызначаецца дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 94. Утрыманні з пенсій**

Утрыманні з пенсій могуць праводзіцца:

а) на падставе судовых рашэнняў, вызначэнняў, пастаноў і прыгавораў (у частцы маёмасных спагнанняў), выканаўчых надпісаў натарыяльных кантор і іншых рашэнняў і пастаноў, выкананне якіх у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь праводзіцца ў парадку, устаноўленым для выканання судовых рашэнняў;

б) на падставе рашэнняў камісій па назначэнню пенсій для спагнання сум пенсій, залішне выплачаных пенсіянеру з прычыны злоўжыванняў з яго боку (у выніку прадстаўлення дакументаў з заведама няправільнымі звесткамі, утойвання факта працы і да т. п.).

Ніякія іншыя ўтрыманні з пенсій, акрамя ўказаных вышэй, не дапускаюцца.

Размер утрымання з пенсіі вылічваецца з сумы, якая належыць пенсіянеру да выплаты.

З пенсіі можа быць утрымана не больш 50 працэнтаў пенсіі: на ўтрыманне членаў сям'і (аліменты), на пакрыццё ўрону ад крадзяжоў маёмасці прадпрыемстваў і арганізацый, на пакрыццё шкоды, прычыненай калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, а таксама ў сувязі са смерцю карміцеля, на вяртанне пераатрыманых сум заработнай платы ў прадугледжаных заканадаўствам выпадках.

Па ўсіх астатніх відах спагнанняў можа быць утрымана не звыш 20 працэнтаў пенсіі.

Утрыманні на падставе рашэнняў камісій па назначэнню пенсій праводзяцца ў размеры не больш 20 працэнтаў пенсіі звыш утрыманняў па іншых падставах.

Ва ўсіх выпадках звароту спагнанняў на пенсію за пенсіянерам захоўваецца не менш 50 працэнтаў належнай пенсіі.

У выпадку спынення выплаты пенсіі (з прычыны аднаўлення працаздольнасці і да т. п.) да поўнага пагашэння запазычанасці па залішне выплачаных сумах пенсіі, якія ўтрымліваюцца на падставе рашэнняў камісій па назначэнню пенсій, запазычанасць, якая засталася, спаганяецца ў судовым парадку.

## РАЗДЗЕЛ XI. ПЕРАРАЗЛІК ПЕНСІЙ У СУВЯЗІ З УВЯДЗЕННЕМ У ДЗЕЯННЕ ГЭТАГА ЗАКОНА

**Артыкул 95. Пераразлік раней назначаных пенсій**

Пераразлік пенсій праводзіцца на падставе дакументаў аб узросце, стажы, сярэднямесячнага заработку і іншых, якія ёсць да часу пераразліку ў пенсіённай справе. Калі пенсіянер у далейшым прадставіць дадатковыя дакументы, якія даюць права на далейшае павышэнне пенсіі ў сувязі з увядзеннем у дзеянне гэтага Закона, то пенсія зноў пералічваецца па нормах гэтага Закона. Пры гэтым пераразлік праводзіцца за мінулы час, але не больш чым за 12 месяцаў перад прадстаўленнем дадатковых дакументаў і не раней чым з дня ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона.

**Артыкул 96. Заработак, з якога вылічваецца пенсія пры пераразліку**

Пераразлік раней назначаных пенсій праводзіцца з сярэднямесячнага заработку, з якога вылічана пенсія, па дакументах, што ёсць у пенсіённай справе. Гэты заработак павялічваецца на індэкс росту сярэднямесячнай заработнай платы ў рэспубліцы за перыяд, які прайшоў з моманту вылічэння пенсіі.

Парадак пераразліку пенсій у адпаведнасці з гэтым артыкулам зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

17 красавіка 1992 г. г. Мінск.

# Вялікага хакея чакаць засталося нядоўга

**Мы паведамлялі ўжо аб тым, што нацыянальная федэрацыя хакея Беларусі стала паўнапраўным членам Міжнароднай федэрацыі хакея на лёдзе (скарочана: ІІХФ). Гэта стала вядома пасля таго як у Празе завяршыўся яе чарговы кангрэс.**

**Пра футбол кажуць, што гэта — гульня мільёнаў. Наконт хакея ніякіх параўнанняў і эпітэтаў народ пакуль што не прыдумаў —гэта гульня параўнальна маладая. Але любяць яе, сапраўды, мільёны. Без перабольшвання.**

**Аб узыходжанні беларускага хакея на міжнародны ўзровень, яго перспектывах расказвае прэзідэнт Федэрацыі хакея Беларусі Яўген АНКУДА, які ўзначальваў нашу дэлегацыю на кангрэсе ІІХФ.**

— Працэс фарміравання сапраўды самастойнага беларускага хакея пачаўся разам з разрушэннем былых саюзных структур, у тым ліку і спартыўных. Федэрацыя хакея СССР таксама аўтаматычна страціла сваю ролю, свае функцыі. На адным з апошніх пасяджэнняў яе выканкома і паўстала пытанне аб уступленні рэспубліканскіх федэрацый хакея ў міжнародную. У пачатку сёлетняга года мы накіравалі адпаведную заяву ў Міжнародную федэрацыю хакея, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Цюрыху, а адтуль вельмі хутка разам з разуменнем і ўхваленнем нашага жадання прыйшло запрашэнне прыбыць на кангрэс ІІХФ у Прагу 6—9 мая. Там, у атэлі «Дыпламат», акрамя беларускай дэлегацыі, у рабоце кангрэса ўдзельнічалі прадстаўнікі Украіны, Казахстана, Азербайджана і трох прыбалтыйскіх краін (апошнія змагаліся за аднаўленне свайго членства ў ІІХФ, бо ўваходзілі туды да 1940 года).

Адбылася таксама і нарада, дзе разглядалася пытанне аб удзеле, у прыватнасці мінскага «Дынама», у розыгрышы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў у будучым годзе. Так што на міжнародную федэрацыю мы ўжо выходзім. І даволі ўпэўнена.

**— Як член Міжнароднай федэрацыі мы таксама маем права выстаўляць зборныя ўсіх узроўняў для ўдзелу ў чэмпіянатах свету, Еўропы, Алімпійскіх гульняў...**

— На практыцы зрабіць гэта не так проста, хоць, здавалася б, усе дзверы ўжо адчынены. Возьмем нацыянальную або, як яе яшчэ называюць, першую зборную. Вось якая атрымліваецца тут сітуацыя. Акрамя названых каманд з былога СССР членамі Міжнароднай федэрацыі хакея сталі сёлета таксама Ісландыя, Харватыя і Славенія. Усяго дзесяць навічкоў. Усе яны па статуту маюць права на ўдзел у чэмпіянаце свету, але толькі ў групе «С» — трэцяй па рангу, калі можна так сказаць. Між тым, у гэтай групе ўжо ёсць восем каманд сталых членаў, такіх, як Паўночная Карэя, Кітай, Балгарыя, Паўднёвая Афрыка і інш. Зборныя ж Беларусі, Украіны, Латвіі і Казахстана маюць поўнае маральнае права, на маю думку, адразу іграць у групе «А» — сярод мацнейшых. Скажу больш: адно наша сталічнае «Дынама», выступаючы аслабленым саставам, неаднаразова і з буйным лікам выйгравала ў цэлай зборнай Польшчы, якая яшчэ сёлета была ў групе «А».

Прадстаўнік адной з федэрацый, здаецца англійскай, так і сказаў: «Ім (гэта значыць беларусам, украінцам, казахам) месца сярод мацнейшых, а ў іх яшчэ ўзнікаюць праблемы з групай «С»... Але тут якраз такая сітуацыя, дзе ніяк не скажаш: «Закон, як дышаль...» Ёсць статут. І тады ініцыятыву на сябе ўзяў прэзідэнт ІІХФ Гюнтэр Сабецкі. Ён унёс прапанову расшырыць трэці дывізіён. Але толькі на 4 каманды: з васьмі да дванаццаці каманд. Вось за гэтыя чатыры вакантныя месцы і правядуць барацьбу дзесяць новых хакейных зборных (да іх яшчэ могуць далучыцца зборныя Грэцыі, Турцыі, Ізраіля і Новай Зеландыі, якія ў мінулым годзе не змаглі прабіцца ў групу «С») у спецыяльным кваліфікацыйным турніры. Ён плануецца з 1 па 10 лістапада.

Невядома пакуль што формула яго правядзення. Аптымальны варыянт быў бы, відаць, такі: каманды, раздзеленыя на дзве падгрупы, маглі б правесці матчы паміж сабой, і па два пераможцы з кожнай склалі б запаветную «чацвёрку». Прэрагатыва тут за Міжнароднай федэрацыяй: яна можа ўлічваць нашы прапановы, але можа прыняць і сваё рашэнне.

Зараз узнікае пытанне: дзе праводзіць гэты турнір? Свае паслугі прапанавалі Украіна і Беларусь. У Кіеве, праўда, больш крытых лядовых пляцовак, чым у Мінску, але мы маем неблагі вопыт правядзення розных міжнародных турніраў: чэмпіянат Еўропы сярод юніёраў, першынство армейскіх каманд дзяржаў — удзельніц былога Варшаўскага Дагавору, тут жа праходзіў турнір «Дружба» былых сацыялістычных краін. Так што шанцы ёсць і ў нас, а дома, як кажуць, і сцены дапамагаюць.

Для такой справы патрэбны, вядома, фінансавыя ін'екцыі. Федэрацыя хакея ўнесла свае прапановы ў Дзяржкамспорт рэспублікі, спадзяёмся, што нас падтрымаюць і больш высокія ўрадавыя інстанцыі. Падобныя міжнародныя спаборніцтвы заўсёды станоўча ўплываюць на аўтарытэт той краіны, дзе яны праводзяцца. Гэты турнір будзе цікавы і ў спартыўным сэнсе, бо наш глядач не надта спешчаны вялікім хакеем. Ды і матэрыяльны бок асабліва не пацерпіць: сродкі, укладзеныя на яго правядзенне, вернуцца з рэкламай, а замежныя каманды прывязуць жаданую валюту.

У гэтай справе могуць дапамагчы розныя камерцыйныя структуры, сумесныя і малыя прадпрыемствы, банкі. Першыя крокі беларускага хакея на міжнароднай арэне павінны быць падтрыманы: трэба будзе фінансаваць зборную, яе ўдзел у розных чэмпіянатах, турнірах, закупляць экіпіроўку, неабходны інвентар. Наш эканамічны фундамент вельмі слабы пакуль што. Ды і адкуль яму быць? Вядома, тут патрэбна падтрымка ўрада, Вярхоўнага Савета. Тыя грошы што выдзеліла сёлета дзяржава на развіццё хакея ў Беларусі—проста смеху вартыя. Даўно ўжо гавораць аб неабходнасці прыняцця закона аб ільготным падаткаабкладанні тых прадпрыемстваў, якія выдзяляюць сродкі для развіцця спорту, мастацтва.

**— Яўген Кірылавіч, хто ўзначаліць зборную каманду Беларусі, з каго яна будзе складацца?**

— Рашэннем федэрацыі хакея 24 красавіка галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай назначаны Уладзімір Сафонаў, сённяшні настаўнік мінскага «Дынама». Юніёрскую каманду ўзначаліць Анатоль Варывончык — трэнер гродзенскага «Нёмана», а юнацкую — Барыс Косараў са школы «Юнацтва», каманда якой нядаўна пад яго кіраўніцтвам на чэмпіянаце СНД заняла трэцяе месца.

Асяродкам першай зборнай будзе, вядома, асноўны састаў «Дынама», але ў Сафонава яшчэ ёсць на прыкмеце нямала ігракоў з іншых каманд...

**— У тым ліку і легіянеры, відаць...**

— Мы можам разлічваць на падтрымку Андрыеўскага, Гальчанюка, Юдзіна з маскоўскага «Дынама», Старасценкі з ЦСКА, Шыпіцына. Прозвішчы гэтыя добра вядомы беларускім аматарам хакея. Калісьці ўсе яны пачыналі ў Мінску.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**



## РАДЫЁ

### 21 мая

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 10.00, 15.00, 20.00, 23.00. 7.00 — «Радыёфакт». 8.05 — «Зона асаблівай увагі». 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — А. Рыбак. «Трэба было жыць». Старонкі рамана. Перадача 2-я, заключная. 10.15 — А. Вольскі. «Тры Іваны — тры браты». Радыёкампазіцыя. Частка 1-я. 11.00 — «Ваша думка, ваша прапанова». 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Гадзіна опернай музыкі». 15.15 — радыёчасопіс «Паэзія». 16.05 — «На паравоце». Праграма для юнацтва. 17.00 — «Эканамічны дзённік». 17.10 — эстрадная музыка Э. Зарыцкага. 17.40 — «Ад нашага ўласнага карэспандэнта» 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00 — «Дзень нашага жыцця». 20.25 — радыёрасказ пра Пінскі тэатр. 21.00 — «Ад шчырага сэрца». 22.00 — «Клопат». Медыцынскі веснік. 22.10 — «Мы і свет». Міжнародная праграма. 22.30 — «Беларускі авангард». Музычная перадача. 23.10 — «З польскіх музычных вечароў». Канцэрт. 0.00 — «Начны канал».



## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 20 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**16.35.** Мультфільмы. «Асляня-агароднік», «Дзівосная бочка».
**17.00.** Дак. фільмы «Залаты плёс», «Ніць Арыядны».
**18.00.** Дабрачынны канцэрт культурна-асветніцкага цэнтра беларускай суполкі інвалідаў па зроку. 1-е аддзяленне.
**18.50.** «Чыгунка». Кінанарыс.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Наш каментарый. «Трэцяя Югаславія».
**19.15.** Якія мы гаспадары? Святло і цяпло нашых кватэр.
**19.35.** «Ну, колькі можна пра каханне?..» Канцэрт-спектакль.
**20.10.** «Вынаходка», «Тут могуць вадзіцца тыгры», «Куфэрак». Мультфільмы для дарослых.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** «Я крочу па Маскве». Маст. фільм.
**22.45.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**12.15.** Пад знакам «Пі».
**13.00.** Як дабіцца поспеху.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Сёння і тады.
**14.45.** «Напярэдадні». Маст. фільм. 2-я серыя. «Інсараў».
**16.00.** Рок макс. «Небворт-90».
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Мультфільм.
**17.35.** «Чорная скрыня».
**18.15.** Максіма.
**18.45.** Маст. фільм «Тры сляпыя мышаняці». (Англія). Серыя «Сарацын».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Эстрадны спектакль «Дурні мы ўсе» з удзелам Я. Петрасяна.
**22.30.** Турнір па армрэстлінгу СНД на прыз памяці Г. К. Жукава.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Пяць плюс.
**0.10.** Міжнародны турнір па пляжнаму валейболу.
**0.55.** «Напярэдадні». Маст. фільм. 2-я серыя «Інсараў».

**Канал «Расія».**

**13.00.** Весткі.
**15.00.** Там-там-навіны.
**15.15.** «Тэатральныя гульні».
**16.15.** Хрысціянская праграма. «Нагорная пропаведзь. Шчаслівыя ўбогія духам...»
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Далёкі Усход».
**17.45.** Версія.
**18.00.** «Школа: учора, сёння, ніколі?»
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Тварам да Расіі.
**19.45.** Памяці А. Д. Сахарава «Вялікая хартыя вольнасцей».
**20.45.** «Сышчык». Маст. фільм. 1-я серыя.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** На сесіі ВС Расіі.
**22.50.** «Сышчык». Маст. фільм. 2-я серыя.

### 21 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Я крочу па Маскве». Маст. фільм.
**10.05.** «Паэма душы». Мастак Элеанора Сямёнава.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Выяўленчае мастацтва. 4 клас. Віды і жанры выяўленчага мастацтва.
**16.55.** «Два клёны». Мультфільм.
**17.30.** Для выпускнікоў школ. Асабісты погляд. Працаўладкаванне пасля школы.
**18.00.** Дабрачынны канцэрт культурна-асветніцкага цэнтра беларускай суполкі інвалідаў па зроку. 2-е аддзяленне.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** «Лясная быль». Частка 1-я.
**19.35.** Беларусь на міжнароднай арэне. Прымаюць удзел міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанка і старшыня Дзяржаўнага Камітэта на знешнеэканамічных сувязях У. В. Радкевіч.
**20.20.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Студыя «Сэнс» у Слонімскім раёне.
**22.55.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** «Казка пра пеўніка і прыгожую прынцэсу», «Дзень цудоўны». Мультфільмы.
**8.00.** Эстрадны спектакль «Дурні мы ўсе» з удзелам Я. Петрасяна.
**9.55.** Навукова-папулярны фільм «Горад адкрытых дзвярэй».
**10.35.** Выступае Камчацкі камерны аркестр.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.25.** Спорт для ўсіх.
**11.55.** «Маё жыццё — музыка». (Да 85-годдзя дырыжора К. Іванова).
**12.50.** Авіякасмічны салон.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** «Партрэт». Дак. фільм.
**14.50.** «Хамелеон». Маст. фільм. 1-я серыя.
**16.00.** Мультфільм «Сонны камень». 3-я і 4-я серыі (Англія).
**17.00.** Навіны.
**17.25.** «Сам-насам з прыродай». Мультфільм.
**17.30.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.10.** Маст. фільм «Вачамі сведкі» (Англія).
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Мастацка-публіцыстычны фільм «Чалавек на ўсе часы».
**21.35.** Хіт-парад «Астанкіна».
**22.50.** Мультфільм для дарослых.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Музыка ў эфіры. Выбранае.
**0.10.** Кікбоксінг. Чэмпіянат свету сярод прафесіяналаў.
**1.10.** «Усяго шэсць струн». Фільм-канцэрт.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Іспанская мова. 1-ы год навучання.
**7.55.** Вольны час. «Увага: здымаю!
**8.10.** Іспанская мова. 2-гі год навучання.
**8.40.** Без рэтушы.
**9.35.** Памяці А. Д. Сахарава. «Вялікая хартыя вольнасцей».
**10.35.** «Джынджэр і Фрэд». Маст. фільм.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Там-там-навіны.
**15.15.** «Дзіцячыя мары». Шматсерыйны фільм (Францыя). 3-я серыя.
**15.35.** Шэдэўры еўрапейскай музыкі з храма святога Францыска Асізскага.
**16.15.** Ключ да сусветнага рынку.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Паны-таварышы.
**17.15.** Расія і свет.
**17.45.** Экспацэнтр прадстаўляе...
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**19.40.** «Санта-Барбара». 47-я серыя.
**20.30.** Хрона. У свеце аўта- і мотаспорту.
**21.00.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** На сесіі ВС Расіі.
**23.00.** Пятае кола (працяг).

# ФАСОЛЯ НА ГРАДЦЫ

У многіх сем'ях фасолевы суп падаецца на стол у святочны дзень. А яшчэ гэты прадукт — апетытны і вельмі карысны — кансервуюць, марынуюць, тушаць, смажаць. Сёння побач з грэчкай і гарохам яна ідзе на базары па вельмі высокіх цэнах.

Між іншым, вырасціць высокі ўраджай фасолі не так і цяжка, бо культура не вельмі капрызная, расце на розных глебах, пры рознай ступені акультуранасці і нават у напаўзацененых месцах. Толькі поле трэба добра ўгноіць; з восені — гной, пры пасадцы — нітрафоска, да 70 грамаў на квадратны метр.

Найбольш патрабавальная да цяпла. Нават невялікі марозік можа яе загубіць. Так што сеяць фасолю трэба ў канцы мая ці пачатку чэрвеня, калі глеба прагрэецца да 10—12 градусаў цяпла. Робім радкі (як і для морквы, толькі глыбейшыя) і кладзём калівы. Добра, калі яны папярэдне намочаны (на 2—3 гадзіны), падсілкаваны мікраэлементамі. Радок ад радка — 40 см, у радку — 7—9 см. Глыбіня загортвання насення— да 5 см, на лёгкіх глебах яна большая, на «цяжкіх»—меншая.

У далейшым усё робяць, як і на градцы, дзе расце гарох: праполкі, рыхленні, калі закладваюцца пупышкі і з'яўляюцца кветкі. Калі стручкі наліваюцца і стаіць сухое надвор'е — абавязковы паліў на глыбіню залягання каранёў (да 30 см) з падкормкай каравяком і попелам. Пажадана зрабіць дзве падкормкі, каб больш завязалася стручкоў і каб зярняты ў іх былі буйнейшыя.

Фасоля добра ўжываецца з агуркамі, капустай, цыбуляй. Асабліва часта яе садзяць па краях градак, дзе растуць агуркі і памідоры. Можна нават у бульбе.

Запомнім, што гэту культуру даўно «асвоілі» птушкі — дразды, сарокі, шпакі. Асабліва ім падабаецца маладзенькі парастак. Па гэтай прычыне многія агароднікі скардзяцца на дрэннае насенне, якое быццам бы не ўзышло. А бяда зусім у іншым... Каб засцерагчы ўсходы, замульчыруем градкі галінкамі, рассцелем плёнку. Плёнка дазволіць выгадаваць большы ўраджай і раней.

**ВАШ САД І АГАРОД**

**Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).**

## Ідзі на стол, вітамін!

Вучоных даўно цікавіла такая з'ява, як стогадовыя юбілеі горцаў і ўстойлівасць японцаў да розных хвароб. Аказалася, што гэтыя розныя народы маюць нешта агульнае: даволі значнае спажыванне зялёных і жоўтых пладоў і раслін з агарода. На стале японцаў больш як 180 відаў вітамінных раслін! Ці не таму ў іх самая высокая ў свеце працягласць жыцця? А горцы Дагестана з карысцю ўводзяць у свой рацыён розныя травы, як сушаныя, так і непасрэдна з градкі.

Шматлікія доследы паказалі высокую эфектыўнасць для арганізма агародніны. Гэта эфектыўнасць пераўзыходзіць нават медыцынскія лекі. Асабліва адчувальны ўплыў зялёна-жоўтых раслін на імунную сістэму чалавека. А найбольш карысная морква. Аранжавы яе падвід (сарты Нанцкая, Вітамінная, Ласікаастроўская, Шантанэ) утрымлівае на 100 грамаў вагі да 7 міліграмаў найкаштоўнейшага караціну.

Важкі уплыў вітамінаў на рост і развіццё арганізма, зрок, фізічны стан скуры і валасоў. Недахват вітаміну А — прамы шлях да змяншэння супраціўляльнасці інфекцыям. Нават камяні ў нырках, катары, захворванні лёгкіх — усё той жа недахват вітаміну А.

Вось чаму такая настойлівая парада медыкаў: ужывайце як найбольш зялёна-жоўтых раслін. Па два-тры разы ў дзень. І лепш у свежым выглядзе.

## РАСЛІНЫ ЗАНЯМЕЛІ АД ХОЛАДУ І ДАЖДЖУ...

Канец першай і пачатак другой дзесяцідзёнак мая аказаліся халоднымі і вельмі «мокрымі». Глеба перанасычана вільгацю на ўсю глыбіню пладароднага слоя. Зямля нібы благая мачаха, сырая і халодная. Асабліва на тарфяніках і суглінках. Дзенідзе там нават доўга стаяла вада.

Расліны, якія пайшлі ўжо ў рост, аказаліся ў неспрыяльных умовах. Калі ім не дапамагчы — загінуць. А дапамога тут адна — крышачку падрыхліць глебу. Сонца і вецер забяруць лішкі вільгаці, сагрэюць градку. Да карэньчыкаў раслін, такіх бездапаможных і кволых у гэты час, будзе доступ паветра. Усё ажыве літаральна за 5—6 дзён. Пасля, калі глеба сагрэецца, а расліны падскочаць у росце, можна будзе правесці больш дбайную апрацоўку.

Ці трэба падкормліваць расліны, пытаюцца чытачы? Такой патрэбы няма. Глеба добра запраўлена пры сяўбе і пасадцы. А лішак сілкавання маладым і нядужым карэньчыкам нават шкодны. Так што пачакаем да першай праполкі. Яна будзе недзе ў канцы мая — пачатку чэрвеня.

А вось саду да цвіцення дапамагчы можна. Справа ў тым, што да кветак, якія недзе выкінулі чырвоныя кропелькі і «набухлі», імкнуцца розныя ворагі. А найбольш кветкаед. Пасля такога холаду і макрэчы, відаць, будуць добра развівацца і розныя грыбковыя хваробы. Таму мэтазгодна ўдарыць па двух ворагах адразу.

Развядзём у дзесяці літрах вады 30 г карбафосу і 40 г хлорвокісу медзі, дададзім дзве сталовыя лыжкі мачавіны. Апрацуем падвечар сухія дрэвы. Папярэдне праверым, ці не абпальвае прэпарат маладыя лісточкі.

Гэта будзе і барацьба са шкоднікамі, і падкормка азотам.

## Ці не жадае агрэст у лазню?

Хутка і неяк непрыкметна прайшла вясна для агрэста. Здаецца, толькі нядаўна ён разгортваў свае малюсенькія кветачкі-лакатары і на іх адчайна ляцелі чмялі, а сёння ўсё пакрыта дробненькімі ягадкамі. Перыяд, калі ягада імкліва прыбывае ў росце і вазе, адзін з найбольш небяспечных для расліны. Справа ў тым, што ў гэты час развіваецца грыбковая хвароба — мучністая раса. Калі белая небяспека «села» на галінкі, лісточкі, плады, ад яе цяжка пазбавіцца.

Вось чаму ў бліжэйшы тыдзень вельмі карысна правесці прафілактычную апрацоўку кустоў і зямлі пад імі: наладзіць для агрэсту (а яшчэ і для чорнай і чырвонай парэчкі) своеасаблівы «лазневы дзень» растворам попелу і мыла. Прасеяны попел заліць цёплай мыльнай вадой і настаяць паўсутак. Працадзіць і апырскваць венікам (на 10 літраў вады 300 грамаў попелу і 40 грамаў гаспадарчага мыла). Аперацыю паўтарыць тройчы праз 10 дзён.

Эфект дае і такі «прэпарат»: па 50 грамаў кальцыніраванай соды і таго ж гаспадарчага мыла на вядро вады. Усё старанна раствараць і настаяць, працадзіць.

Найбольш дбайна апрацоўваць верхнія, самыя маладыя парасткі, а таксама ягадкі, зацененыя ў кусце. На іх найбольш «селіцца» хвароба. Пасля апрацоўкі такія кусты добра замульчыраваць разведзеным свежым каравяком. Гэта выпрабаваны народам прафілактычны сродак.

## ГЛЕБА КІСЛАЯ ЦІ НЕ ВЕЛЬМІ?

У аграхімікаў рэспублікі меркаванне пра кіслотнасць глебы адназначная: кіслая. Паўсюдна ў калгасах і саўгасах пыляць спецыяльныя агрэгаты, імкнучыся знізіць кіслотнасць. Выкарыстоўваюць звычайна даламітавую муку.

А як рэагуюць расліны на рэакцыю глебавага раствору? Па-рознаму. Многія (і іх пераважная большасць) надзвычай адмоўна. Для іх глеба павінна быць нейтральнай (pH 6,6—7,2). Разам з тым, група раслін «патрабуе» кіслых глеб (pH ніжэй 5) і слабашчолачных (pH вышэй 7,2).

Найбольш «баяцца» кіслых глеб капуста і буракі. Менш адчувальныя гарбузы, часнок, цыбуля, агуркі, салата, спаржа, перац, шпінат, пастарнак, сельдэрэй і іншыя. Яны станоўча адгукаюцца на вапнаванне.

Памідоры, бульба, радыска, рэпа, бручка, рэвень не надта рэагуюць на кіслотнасць. Дыяпазон іх упэўненага росту ад кіслай да амаль нейтральнай глебы.

Кіслотнасць правяраюць спецыяльнымі прыборамі. Можна і самім многае запомніць. На высокую кіслотнасць указваюць такія расліны, як макрыца, розныя ёлачкі, конскае шчаўе. Раз у чатыры гады глебу вапнуюць даламітавай мукой. Рабіць гэта лепш восенню. Вясной можна ўнесці палавіну даламіту за месяц да высадкі расады капусты і караняплодаў. Добры эфект дае попел, але ў павышаных дозах.

Вось табліца для вапнавання:

| Глебы | Уносяцца даламітавая мука ці мел кг/на 1 м² пры паказчыках pH: | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 4,6 | 5,0 | 5,2 | 5,4 |
| Пясчаныя | 0,25 | 0,15 | 0,1 | 0,1 |
| Супясчаныя | 0,3 | 0,2 | 0,15 | 0,15 |
| Сярэдне-суглiністыя | 0,5 | 0,4 | 0,35 | 0,3 |
| Глiністыя | 0,65 | 0,55 | 0,5 | 0,45 |

# МОЦНЫЯ ДУХАМ

Да чаго ж прыгожыя аправы абразоў, якія стварае Марыя Харытончык з Чырвонага сяла, што ў Зэльвенскім раёне! Кожны, хто ўбачыць іх, міжволі залюбуецца філіграннасцю работы.

...Хвароба напаткала Марыю яшчэ ў дзяцінстве. У выніку — інвалідная каляска, доўгія гады лячэння. Хвароба не адступае, але і Марыя не здаецца. Сілы для жыцця, цікавасць да навакольнага свету знайшла яна ў творчасці. Дзяўчына вышывае, вяжа, але самым любімым яе заняткам стаў выраб апраў для абразоў. Робіць іх Марыя з самага простага матэрыялу—фольгі.

На жаль, чорна-белая фатаграфія не можа цалкам перадаць усё багацце колеру і прыгажосць работ Марыі Харытончык.

На здымку: Марыя ХАРЫТОНЧЫК і адна з яе работ.

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА, (БЕЛТА).**

## НАДВОР'Е

### 20 мая

Сёння ўдзень на надвор'е рэспублікі акажа ўплыў антыцыклон. Будзе пераменная воблачнасць, без ападкаў.

Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 17—19, Гомелі — 18—20, Мінску — 19—21, Брэсце, Гродна — 21—23 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 21 мая захаваецца цёплае і сухое надвор'е, 22-га ўдзень пройдуць кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра панізіцца да 11—16 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» і пастанова Вярхоўнага Савета аб парадку ўвядзення яго ў дзеянне.**

**«Люстэрка».** Інфармацыйная панарама.

**«Сяўба завяршаецца. Работы працягваюцца».** Агляд.

**«Не май 100 рублёў, май 200».** Адкуль узяўся ў нас дэфіцыт грошай.

**«Маўна Хенрык Койвіста».** Да прыезду ў Мінск Прэзідэнта Фінляндыі.

**«Пасрэднік».** Інфармацыйна-рэкламны раздзел.

Для вас, жанчыны. **«Лета, мода і мы».**

**Шахматы.**

**Шашкі.**

Афіша дня.

## ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту У. СЫЧОВА**

**ТВОРЫ КОНКУРСУ СКЛАДАННЯ**

**М. Плотнікаў** (Брэст)

**Белыя:** Крf8, Ла5, Сс3 (3).
**Чорныя:** Крс4, Фd4, Кb5, п. d5 (4).
Кааператыўны мат за 3 хады.

**Ю. Беражны** (Арол)

**Белыя:** Крh8, Сb2, Сh7, Кс8, пп: с4, f2 (6).
**Чорныя:** Крf4, Фа8, Лf3, Сс1, Кb1, Ке6, пп: b7, с2, с5, d7, е3, g3, h6 (13).
Кааператыўны мат за 3 хады.
Блізня Кс8→f8

ЗВЕРЦЕ РАШЭННІ

Заданні №№ 7—8 першага квартальнага конкурсу рашэнняў развязваюцца так:

**№ 7. Д. Кутцборскі.** 1. Са6! Лd3 (нельга 2. Лс2? з пагрозай 3. Сh6 Крd4 4. Лс4х, але 2... Кg6! Спачатку трэба 2. Сh6 Крd4 3. Лс2 Лg3! 4. Сf1! Лd3 5. Сg7 Kpe3 6. Ле2х.

**№ 8. Б. Ліндгрэн.** 1. Крh2 Крg4 2. Лf1! Крh5 3. Лg1 Крh4 4. Лg3! Крh5 5. Кр:h3 Крh6 6. Крh4 Крh7 7. Крh5 Крh8 8. Крg6! Крg8 9. Лf3 Крh8, 10. Лf8х.

Правільныя адказы на заданні прыслалі наступныя ўдзельнікі: К. Жук, С. Усянкоў, У. Каташук, Ю. Клімоўскі, В. Быкаў, М. Губчык, А. Кіслы, У. Сакалоў, К. Ярыга, Ю. Каховіч, А. Якімовіч, М. Сігневіч, І. Буяк, М. Загорскі і іншыя.

ЧАСОПІС ЖЫВЕ!

Да Вас звяртаецца рэдкалегія новастворанага па рашэнню Міністэрства друку і інфармацыі Расіі часопіса «Шахматная композиция», які будзе выходзіць 4 разы ў год.

Часопіс будзе публікаваць арыгінальныя творы, вынікі спаборніцтваў, тэарытычныя артыкулы і шмат іншага цікавага матэрыялу.

Каб падпісацца на 4 нумары часопіса, якія выйдуць у 1992 годзе, трэба выслаць 50 рублёў на разліковы рахунак № 468902 у Русакоўскім аддзяленні Масбізнесбанка г. Масквы, МФО 201876 ККМП «Лига» з паметкай часопіс «Шахматная композиция».

Выданне будзе перасылацца па пошце. Квітанцыю аб паштовым пераводзе, прозвішча, імя, імя па бацьку і адрас атрымальніка пасылаць на адрас: 107078, г. Масква, Скарняжны завулак, д. 5, корп. 1, кв. 58, ККМП «Лига».

## ТАЙМ-АЎТ

### Хвалюе Барселона

**У саставе аб'яднанай каманды СНД на Алімпійскіх гульнях у Барселоне выступяць спартсмены ўсіх рэспублік былога СССР, уключаючы Літву, Латвію і Эстонію. Такое рашэнне прынята ў Кіеве на пасяджэнні Спартыўнага савета і Савета прэзідэнтаў Нацыянальных алімпійскіх камітэтаў краін Садружнасці.**

**Прэзідэнт НАК Беларусі Уладзімір Рыжанкоў, які прысутнічаў на ім, у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА адзначыў, што адборачныя спаборніцтвы па некаторых відах спорту завяршыліся раней, чым былі створаны Нацыянальныя алімпійскія камітэты. Напрыклад, у зборнай валейбольнай камандзе выступалі два латвійскія спартсмены. Цяпер з прычыны таго, што Латвія ў гэтым відзе спорту на Алімпіядзе выступаць не будзе, па дагаворанасці з НАКам гэтай краіны латвійскія валейбалісты застаюцца ў зборнай СНД. Такія сітуацыі — і ў некаторых іншых відах спорту, у тым ліку тых, што культывуюцца ў Беларусі.**

**На пасяджэнні былі разгледжаны таксама асобныя пытанні фінансавага характару, зацверджаны персанальныя саставы аб'яднаных каманд па плаванню і настольнаму тэнісу. Абмяркоўвалася таксама пытанне валютнага забеспячэння алімпійскай каманды. Было адзначана, што тут узніклі пэўныя цяжкасці. Аднак нядаўна Савет прэзідэнтаў НАКаў заключыў са спонсарамі новыя пагадненні. Тут жа, дарэчы, было вырашана пытанне аб прэміраванні спартсменаў за паспяховае выступленне на летніх Алімпійскіх гульнях. Той, хто заваюе залаты медаль, атрымае 3 тысячы долараў і 30 тысяч рублёў, сярэбраны — адпаведна 2 і 20, бронзавы — адну тысячу долараў і 10 тысяч рублёў.**

**І яшчэ некалькі лічбаў. У Барселону паедзе адміністрацыйная «каманда» ў саставе 175 чалавек. З іх 102 трэнеры, 21 медыцынскі работнік, астатнія — кіраўнікі каманд і адміністрацыйны персанал. Напомнім, што ў Сеул ездзілі 280 чалавек.**

**(Кар. БЕЛТА).**

Галоўны рэдактар
У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: першы намеснік галоўнага рэдактара Міхаіл Міхаевіч, намеснік адказнага сакратара Віктар Краўчанка, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63850.
Зак. № 98.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12